PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 44 (2059) ГОД XL | БЕЛАСТОК 29 КАСТРЫЧНІКА 1995 г. | ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*Мікола Ваўранюк*

## КОНЮХ, АЛЕ ПАН

Калі ехаць з Гайнаўкі ў напрамку Кляшчэль, на трэцім кіламетры за горадам, праваруч, у пэўнай адлегласці ад шашы відаць прыгожы, архітэктурна цікавы белы дом. Побач яго акуратныя гаспадарчыя будынкі. На выгане да самой дарогі пасецца табун веснавых жарабят. Гаспадаром тут Мікалай Васілюк. Гэта яго чорнае „Аўдзі" стаіць ля брамы.

— Сам я родам з Грабаўца каля Дубіч-Царкоўных, — расказвае, — але ўжо 15 гадоў жыву ў Гайнаўцы. А гэтую гаспадарку купіў я дзесяць гадоў таму, ад аднае ўдавы. Потым прадаў бацькаву, бо далекавата ад Гайнаўкі было. А тут, гэтую прыводжу памалу ў парадак. Спачатку гадаваў авечак, яшчэ і цяпер восемдзесят матак маю, але шэсць гадоў ужо трымаю коней. Я крыху спазніўся з імі, **бо быў час, калі на кілаграме каніны можна было зарабіць і пяць разоў больш, чымсьці на кілаграме свініны ці ялавічыны,** але і так коні больш аплачваюцца. Асабліва, калі прадаць такога коніка да паўтара года ў Італію. Тады, за харошага, і 25 мільёнаў можна ўзяць.


Мікалай Васілюк з жарабцом Грамам сакольскай пароды.

Спадар Васілюк гадуе цяпер дзесяць кабыл, усе сакольскай пароды. І дзесяцігадовага жарабца-чэмпіёна Грама.

— Пра такога я марыў, — кажа гаспадар. — Пяць гадоў назад стаў ён прызёрам выстаўкі ў Варшаве, а сёлета ў Шапятове. У мінулым годзе быў у мяне іншы, але слабаваты, а гэты мае 83 балы. Для распладнення жарабец павінен мець прынамсі 77 спецыялістычных балаў.


Рэната і Ася сярод веснавых жарабят.

76, напраўляюць бацьку дзеці. Вялікі як гара Грам адначасна лагодны і павольны. Адзінае, на што мусіць уважаць шасцікласнік Пятрусь, ведучы гэтага каня, каб не наступіў ён на нагу. Рэната і Ася гуляюць тым часам з жарабяткамі, гладзяць іх, чухаюць. Жарабяты ходзяць за людзьмі як сабакі. Адно заглядае мне ў блакнот і трэба назолу проста адпіхнуць, каб не з'ела карткі.

— Дзеці ў конях лепш ужо за мяне разбіраюцца, — хваліцца Мікалай Васілюк, — і страшэнна іх любяць, вельмі ахвотна ва ўсім тут дапамагаюць, а часам то сядуць і прыедуць з Гайнаўкі самі, без мяне даглянуць.

Мікалай Васілюк працуе шафёрам у хуткай дапамозе ў Гайнаўцы, жонка Яўгенія — настаўніца, доўгія гады была метадыстам рускай мовы, пасля давялося перакваліфікоўвацца, ездзіць на курсы, павышаць усё свой прафесійны ўзровень. Цяпер працуе ў Пачатковай школе н-р 3 у Гайнаўцы, вучыць розным прадметам: і рускай мове, і польскай, і гісторыі, і малюнкам. Старэйшая дачка ўжо ў беларускім ліцэі, малодшыя дзеці вучацца ў гэтай самай школе, дзе працуе маці — на Юдзянцы.

Пытаюся, ці не збіраюцца пераязджаць у гэты дом каля Вялікіх Пасечнік.

— Ну, я так паціху планую, — адказвае гаспадар, — але хто яго ведае, ці здароўя хопіць, ці ў дзяцей і надалей будзе зацікаўленне да гэтага, ці дапамагаць схочуць. Жонка то спачатку глядзела на маё гаспадаранне без асаблівага энтузіязму, але памаленьку, памаленьку і ўцягнулася. Цяпер кожную вольную хвіліну тут праводзіць і ва ўсім памагае з вялікай ахвотай. І плануе ўжо, як і што будзе ў гэтай хаце. Бо бачыце, я яе разбуда-

Працяг на стар. 3


Праз год гэтае жарабя будзе вартае 25 мільёнаў злотаў (па сённяшніх цэнах).

## БУБЭЛЬ І ІНШЫЯ

9 кастрычніка па другой праграме польскага тэлебачання трансліравалася амаль гадзінная размова журналістаў з кандыдатам на прэзідэнта Лешкам Бубэлем. Пры канцы гэтай гутаркі адзін з журналістаў сказаў, што ўсе павінны быць удзячны кандыдату, бо на яго прыкладзе відаць, як недасканалы ёсць выбарчы закон, які дазваляе выпадковым асобам змагацца за найвышэйшы пост у Рэчы Паспалітай, кампраметаваць дзяржаву і прыніжаць прэстыж яе ўлад. Што тады сказаў кандыдат на прэзідэнта Бубэль? Эканамічныя праблемы дзяржавы і сацыяльныя грамадства мае намер вырашыць толькі пры дапамозе павышанага кантролю фінансава-падатковай сістэмы. Што меў на ўвазе кандыдат, немагчыма было даведацца. Пра замежную палітыку Бубэль яшчэ не думаў, але сказаў, што хоча даць рашучы адпор тым яўрэйскім асяроддзям, якія дрэнна выказваюцца пра палякаў. Дзеля гэтага пачаў ужо выдаваць часопіс з анекдотамі пра яўрэяў у... крэматорыі. Калі спыталі яго пра людзей, якія з ім прыйдуць да ўлады, калі выйграе выбары, кандыдат адказаў, што пакуль такіх няма, але знойдуцца вельмі кампетэнтныя і падрыхтаваныя да кіравання дзяржавай асобы. Пасля кожнага пытання, на якое не было адказу, пасля кожнай мінуты праграмы, у месцы, дзе сядзеў чалавек, які захацеў стаць прэзідэнтам Польшчы, відаць было толькі інтэлектуальны нуль. Няёмка таксама рабілася вядомым палітычным каментатарам Мразевічу, Енасу, Дзятлавіцкаму, калі ставілі сур'ёзныя пытанні чалавеку, які ў найлепшым выпадку мог бы быць геэсаўскімураднікам. Гэта ўжо нават не было смешнае, а проста жахлівае. „Дэмакратыя гэта найгоршая сістэма, якую можна сабе ўявіць, але ніхто яшчэ не прыдумаў лепшай", — сказаў брытанскі прэм'ер Уінстан Чэрчыль у 1941 г. На ўсходзе Еўропы, дзе няма яшчэ належнай пашаны да дэмакратычных правілаў ігры, пераможцамі найчасцей астаюцца тыя, якія больш абяцаюць. Усе палітычныя фактары тут яшчэ неакрэсленыя. Галасуючы, чалавек ніколі не ведае, за якую палітыку аддаў свой голас. Напрыклад, падчас апошніх парламенцкіх выбараў у Польшчы той, хто аддаў свой голас на г.зв. посткамуністаў, аказваецца, выказаўся за ліберальную гаспадарку.

Тыя, што называюць сябе правымі, прадстаўляюць сацыяльныя праграмы, якія нядаўна рэкамендавалі сваім грамадствам заходнееўрапейскія камуністы.

У кабарэ пераўтварылася сёння выбарчая кампанія, калі 17 кандыдатаў захацела стаць прэзідэнтам. Ёсць сярод іх і звычайныя людзі, якія пра палітычныя праблемы краіны не маюць ніякага ўяўлення, а нават, як нейкі Пятровіч, дэманстрацыйна заяўляюць, што палітыкай ніколі не цікавіліся, не прачыталі ніводнай кніжкі на гэтую тэму і не маюць ніякіх сяброў у кругах улады. Калі, напрыклад, Пятровіч стане прэзідэнтам, сядзе ў мяккі фатэль і прадыктуе сакратаркам змест новай канстытуцыі, новае заканадаўства і спосабы яго ажыццяўлення. У сродках масавай інфармацыі з'явіцца аб'ява, што вядзецца набор міністраў для новага ўрада. Невядома яшчэ, ці кіраўнік кабарэ „Pod Egidą" усур'ёз замахнуўся ўзяць Намесніцкі палац у Варшаве ці толькі далучыўся да гульні, у якой удзел можа прымаць кожны грамадзянін Польшчы, які закончыў 35 гадоў жыцця і не з'яўляецца псіхічна хворым. Ніякі аднак псіхіятрычны кансіліум не абследаваў яшчэ здароўе кандыдатаў, некаторыя з якіх маглі б не змясціцца ў межах нормы. Уся надзея ў тым, што грамадства больш сур'ёзна паставіцца да выбараў, чым самыя кандыдаты на прэзідэнта Рэчы Паспалітай.

рэд.

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Polityka w Polsce zeszła na psy z różnych powodów. Przez kilka dziesięcioleci władza ludowa udawała przy użyciu nudnych przemówień i drętwych frazesów, że robi politykę. Kaliber ludzi, którzy napłynęli po zmianie systemu, był bardzo różny. Znalazło się kilku dużych chłopców, ale większość nowych talentów to drobnica, która z nadęciem nadrabia braki politycznej postury. Modne jest narzekanie polityków na prasę, która rzekomo nadweręża ich autorytet, ale nikt tego lepiej nie robi jak pijaczek za kierownicą zasłaniający się legitymacją poselską. Sukces Tymińskiego w poprzednich wyborach prezydenckich wrócił obecnie jako farsa. Lista 17 oficjalnych kandydatów sprawia, że poważni, mniej poważni i całkiem śmieszni kandydaci będą przekrzykiwać się, żeby dotrzeć do naszych uszu. Będą obiecywać zniesienie podatków i jednoczesne podwyższenie płac i emerytur. Wszyscy otrzymali bezpłatny czas w telewizji i będą do znudzenia przepytywani przez dziennikarzy. Każdy dziennik pokaże nam ten horror. I będzie to horror za nasze pieniądze. Polityka to kosztowna zabawa. Ale za wszystkie bednie, które już usłyszeliśmy i które jeszcze usłyszymy, sami musimi płacić.*

*Kurier Poranny, nr 230*

* * *

*Najważniejsze decyzje dotyczące losów Polski zapadają w Waszyngtonie i Brukseli, a wszyscy kandydaci na prezydenta RP niemal bez wyjątku przed kamerami telewizyjnymi czołgają się do NATO,* — сказаў Анджэй Лепэр, кандыдат на прэзідэнта РП.

*Gazeta w Białymstoku, nr 233*

* * *

*Аляксандру Лукашэнку наогул не хацелася б ніякага парламенту. Безумоўна такі варыянт псіхалагічна найбольш адпавядае характару беларускага прэзідэнта, аднак існуючыя рэаліі не дазваляюць увасобіць такі падыход у жыццё. Канечне, пад словам „рэаліі" трэба разумець не асаблівасці беларускага ўнутрыпалітычнага жыцця, а міжнародныя абставіны. Ужо цяпер прэзідэнт будучаму парламенту пачынае ствараць імідж чарговага „ворага народа". Вядома, што парламент будзе слабы, баязлівы, заідэалагізаваны і, у выніку, недзеяздольны. Блакітная мара любога дыктатара.*

*Свабода, н-р 39*

* * *

*Год спустя после приведения Александра Лукашэнко к присяге Беларусь оказалась под колпаком у прэзидента и подчинённых ему служб. „Государство это я" — мог бы с полным на том основанием заявить прэзидент.*

*Народная воля, 1.10.1995 г.*

Хто ведае, ці манархія накшталт французскага караля Луі XIV не была б найлепшай формай дзяржаўнасці для Беларусі. Дынастыя Рыгоравічаў гучала б не горш, чым Раманавых ці Бурбонаў.

* * *

*Niestrudzonym bojownikiem o sprawę integracji Rosji i Białorusi jest białoruski prezydent Aleksander Łukaszenko. Tej kwestii były poświęcone niedawno wizyty Łukaszenki w Moskwie, Soczi i Kijowie, które wręcz wprawiły w zakłopotanie rosyjskiego premiera Czernomyrdina oraz prezydentów Jelcyna i Kuczmę i skończyły się niczym. Kuczma długo nawet nie miał czasu by przyjąć prezydenta Łukaszenkę.*

*Gazeta Wyborcza, nr 232*

З прэзідэнтам Сашкай ніхто ўжо нават гаварыць не хоча. Таму праўдападобна кожны дзень Аляксандр Рыгоравіч „общается с народом". Мікрафоны і камеры тэлебачання большасць часу працуюць над хронікай штодзённага жыцця прэзідэнта. Таму кожны грамадзянін Беларусі ведае, што раніцай, у абед і вечарам рабіў Сашка І, аб чым „заботился" і „с кем встречался и беседовал".

* * *

*Pan prezydent nie podpisując ustawy o rewaloryzacji rent i emerytur być może we własnym mniemaniu wykręcił taki chytry numer „czerwonym". Jest to jednak psota oparta na mentalności zasmarkanego Jasia, który nie zdaje sobie sprawy ze skutków zabawy. I on chce być prezydentem znów.*

*Gazeta Tygodniowa, nr 18*

* * *

*Episkopat i biskupi apelują by nie głosować na Kwaśniewskiego. Kościół czyni mu znakomitą reklamę, jakiej nie będzie miał żaden z kandydatów. Jeżeli w listopadzie 1995 r. okaże się, że nowym prezydentem Rzeczypospolitej zostanie Aleksander Kwaśniewski, powinien złożyć hojną ofiarę na mszę dziękczynną w Archikatedrze Warszawskiej.*

*Polityka, nr 40*

А ці было ксяндзам калі-небудзь лепей, чым пры камуністах? Народ шанаваў святароў больш, чым усіх святых.

* * *

*Bubel, Koźluk, Pawłowski, Pietrzak, Piotrowicz, Tejkowski, Lepper — który z nich zostanie prezydentem III RP? Bubel zapewnia, że pozwie wszystkich dziennikarzy do sądu za to, że rozpisywały się o jego pobycie w agencji towarzyskiej. Kazimierz Piotrowicz z Chrzanowa nawet nie kryje, że nie czytał żadnych książek politycznych, nie zna polityków, nie rozmawiał z nimi. Z deklarowanej apolityczności, rozumianej jako polityczna ignoracja, kandydat czyni wręcz oręż w przedwyborczej walce. Andrzej Lepper chciałby „pogonić" politykom kota, Jan Pietrzak uczynić kabaret w centrum życia politycznego.*

*Wprost, nr 41*

Кабарэ ўжо існуе.




**Вярхоўны суд** адхіліў надзвычайную рэвізію міністра юстыцыі **Ежы Яскерні** ў справе запісу ў статуце **Грамадска-культурнага таварыства немцаў на Шлёнску Апольскім**, што членам таварыства можа стаць кожны жыхар рэгіёна, які дэкларуе нямецкую нацыянальнасць. Суд прызнаў, што міністр не меў рацыі, калі аспрэчыў запіс і патрабаваў удакладнення, што членамі таварыства могуць стаць толькі польскія грамадзяне. Міністр апасаўся, што брак такога запісу дае магчымасць стаць членамі таварыства замежнікам і стаіць у супярэчнасці з польска-нямецкім трактатам, які нямецкай меншасцю ў РП называе асоб гэтай нацыянальнасці польскага грамадзянства. Старшыня нямецкага таварыства, пасол Сейма **Генрык Кроль** сказаў, што членства асоб няпольскага грамадзянства ў таварыстве — немагчымае.

**Зразумець Боснію** — пад такой назвай прайшла ў Сейнах сустрэча з **Тадэушам Мазавецкім** — спецыяльным пасланцом Камісіі правоў чалавека ААН у Боснію. „Вайна ў Босніі — гэта не рэлігійная вайна, — сказаў Т. Мазавецкі. — Элемент веры толькі атаясамлівае бакі канфлікту: харватаў з каталікамі, сербаў з праваслаўнымі, а баснійцаў з мусульманамі. Канфлікт у былой Югаславіі — красамоўны прыклад таго, як зусім нядаўнія гістарычныя падзеі можна выкарыстаць для сённяшніх палітычных мэт. Калі б нехта хацеў раздзьмухаць па гэтаму прынцыпу польска-украінскі канфлікт, зрабіў бы гэта і распаліў бы нашыя ўзаемныя адносіны да белага".

Цыганы намерваюцца стварыць міжнародную арганізацыю — **Канферэнцыю ромаў**. Такую ініцыятыву праявілі прадстаўнікі цыганоў розных краін падчас сімпозіума Арганізацыі Бяспекі і Супрацоўніцтва ў Еўропе, якая адбылася ў Варшаве.

**Кангрэс палякаў Літвы** — так называецца новая арганізацыя, якую заснавалі 40 польскіх дзеячаў незадаволеных дзейнасцю Саюза палякаў у Літве і стваранай ім партыяй Выбарчая акцыя палякаў у Літве. Вядомы дзеяч і дырэктар польскамоўнай радыёстанцыі „З-над Віліі" **Чэслаў Акінчыц** заявіў, што новая арганізацыя хоча супрацоўнічаць з літоўскімі ўладамі, не намерваецца займацца палітыкай, а толькі адукацыйнай і грамадскай дзейнасцю, а таксама будзе імкнуцца сфармаваць эліту, якая не закрывалася б у польскім гета.

**Пад супольным дахам** — так называлася выстава мастакоў з Польшчы на Фестывалі сучаснага мастацтва ў Берліне. Сярод экспанаваных работ былі дзве карціны **Лявона Тарасэвіча**.

У ліку 15 піяністаў, якія ў III этапе **Міжнароднага Шапэнаўскага конкурсу** змагаліся за права выступаць у фінале, апынуўся прадстаўнік Беларусі **Андрэй Паначэўны**. Аднак у шчаслівую шасцёрку фіналістаў беларускаму музыку ўвайсці не ўдалося.

**У Медыцынскай акадэміі ў Беластоку** адбылася ўрачыстасць прысваення штогадовых узнагарод рэктара за навуковую і дыдактычную дзейнасць. Агулам вылучана было 120 чалавек. Індывідуальную ўзнагароду І ступені за навуковыя дасягненні атрымаў таксама **праф. Васіль Чачуга** — загадчык Кафедры біялогіі.

**Беластоцкі ваявода Анджэй Гаеўскі** заявіў, што пасада **ўпаўнаважанага па справах нацыянальных, этнічных і рэлігійных меншасцей** будзе створана ў Ваяводскай управе не раней 1 студзеня 1996 г.

**У VI Сустрэчах з сакральнай музыкай і паэзіяй у Заблудаве** прымала ўдзел больш за 600 выканаўцаў з паўднёва-ўсходняй часткі Беластоцкага ваяводства. Журы гэтага мерапрыемства вылучыла, між іншым, „Цаглінкі" з Ляўкова, калектывы з Паўлаў і Козлікаў, маладзёжныя хоры з Увакрасенскага прыхода ў Беластоку і з Успенскага ў Заблудаве.




- Забытая гадавіна вялікага Кастрычніка.
- Сённяшні дзень беларускай прэсы — разважанні Генадзя Бураўкіна.
- Культурнае жыццё Беласточчыны.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### ВС — легітымны

Канстытуцыйны суд, нягледзячы на псіхалагічны ціск з боку прэзідэнцкай адміністрацыі, вынес канчатковае рашэнне, у якім адзначаецца, што Вярхоўны Савет XII склікання захоўвае свае правамоцтвы да адкрыцця першай сесіі беларускага парламента XIII склікання. Словам, стары парламент — легітымны.

### Хельсінскі камітэт

У Доме літаратара ў Менску адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага хельсінскага камітэта. Гэтая праваабаронная арганізацыя дзейнічае ў многіх краінах свету, абараняючы правы чалавека, свабоду слова і недатыкальнасць асобы. Ужо на з'ездзе сябры камітэта прывялі канкрэтныя прыклады парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі, злоўжыванняў у вайсковай і медыцынскай сферах. Старшынёй рады абраны фізік і гісторык Тацццяна Процька, а яе намеснікамі сталі Лявон Баршчэўскі, Карлас Шэрман, Аляксандр Сакалоў. Устаноўчы з'езд прыняў заяву наконт сітуацыі з беларускімі незалежнымі выданнямі.

### Наступ на свабодны друк

11 кастрычніка не выйшаў чарговы нумар незалежнай газеты „Народная воля". Прычына — Беларускі дом друку, які знаходзіцца ў распараджэнні прэзідэнцкай адміністрацыі, адмовіўся друкаваць выданне. Галоўны рэдактар Іосіф Сярэдзіч праінфармаваў, што дырэктар гэтага выдавецтва паведаміў яму аб скасаванні з 10 кастрычніка дагавора з "Народнай воляй" у сувязі з „існуючым экспертным заключэннем Міністэрства юстыцыі аб допушчаных рэдакцыяй парушэннях закона аб друку". Пры гэтым сутнасць прэтэнзій галоўнаму рэдактару высветліць так і не ўдалося. Спынена таксама выдаванне незалежных часопісаў „Беларуская дзелавая газета" і „Імя".

### Закрылі „Хату"

Беларускае выдавецкае таварыства „Хата" пазбаўлена на год ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць. Прычынай гэтаму паслужыла кніга пра дзяржаўны герб пад загалоўкам „Пагоня ў сэрцы маім і тваім", якая выйшла ў свет 25 красавіка г.г. У загадзе Міністэрства культуры і друку н-р 331 гаворыцца наступнае: „Беларускім выдавецтвам "Хата" выпушчана ў свет кніга, змест якой супярэчыць вынікам рэферэндуму па дзяржаўнай сімволіцы і такім чынам адмоўна ўплывае на паразуменне, еднасць і стабільнасць у грамадстве". Раней гэтае выдавецтва папракалі ў выданні кнігі „Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі".

### Дыпламатычная сустрэча

Па ініцыятыве Еўрапейскага Саюза ў Міністэрстве замежных спраў прайшла сустрэча кіраўніка гэтага ведамства Уладзіміра Сянько з кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў краін-членаў ЕС у Менску. У ходзе гутаркі дыпламаты пацвердзілі намер ЕС развіваць супрацоўніцтва з Беларуссю. У сваю чаргу Сянько пацвердзіў намер прэзідэнта і ўрада правесці дававыбары ў парламент рэспублікі.

### Кантроль за сходамі

Па словах прэзідэнта Беларусі ў бліжэйшы час будзе распрацаваны і падпісаны ўказ, згодна з якім усе мерапрыемствы, сустрэчы з працоўнымі калектывамі ў рэгіёнах краіны могуць праводзіцца толькі пасля папярэдняй дамоўленасці з кіраўніцтвам адміністрацыі таго ці іншага раёна або выканаўчымі ўладамі на месцах. Улады, як відаць, клапоцяцца, каб ворагі народа не падбухторвалі працоўны люд супраць прэзідэнта і яго каманды.

### Дзелавыя кантакты

Дэлегацыя дзелавых колаў рэспублікі пабывала ў Польшчы, прымаючы ўдзел у міжнародных беластоцкіх кірмашах „Буд-Экспа" і „Эка-Арма". Прысутнасць беларускіх прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, якія працуюць у будаўнічых галінах — адна з многіх канкрэтных спраў у рамках шматпланавай праграмы Беластоцкага цэнтра кірмашоў і садзейнічання ўсходняму рынку, які ўжо каля трох гадоў з'яўляецца надзейным партнёрам Беларускага саюза прадпрымальнікаў.

### Пустыя кашалькі

У бліжэйшай будучыні пустыя кашалькі не патаўсцеюць. Паводле слоў прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра, на павышэнне мінімальнай заработнай платы пакуль няма сродкаў. Да таго ж сярэдняя заработная плата расце хутчэй, чым цэны. У валютным вылічэнні яна ўжо наблізілася да 80 долараў у месяц і калі паспрабаваць давесці яе да 100—110 „зялёных", то эканоміка не вытрымае.

### Чэргі аўтамабілістаў

Каб зарэгістраваць у Гродзенскай дзяржаўнай аўтаінспекцыі аўтамабіль ці іншы від транспарту, прыватніку часамі прыходзіцца прастойваць у чэргах па некалькі тыдняў. Вырашыць праблему можна, арганізаваўшы работу супрацоўнікаў ДАІ ў дзве змены, але гэта магчымае толькі ў выпадку павелічэння штату работнікаў на некалькі дзесяткаў чалавек.

# КОНЮХ, АЛЕ ПАН

*Працяг са стар. 1*

ваў са старое і цяпер канчаю. Трэба, каб якісьці парадак быў, каб прыгожа. Нам і з нашае хаты на Юдзянцы сюды недалёка, якраз чатыры кіламетры.

У Мікалая Васілюка спачатку было вялікае замілаванне да авечак. Першых 30 матак прывёз ад бацькі з Грабаўца, крыху дакупіў і так развёў статак. Любіў працу пры авечках, а найбольш — стрыгчы. Але паявіўся цяжкі час са збытам. Да авечак трэба было дакладаць. Тады пачаў гадаваць коней.

— Пры конях, папраўдзе, можна хадзіць у капелюшы і пад гальштукам, — расказвае, — і скідаць іх толькі да гною. Ну і яшчэ пры сене трэба крыху папацець. Я прыязджаю пасля начнога дзяжурства, магу без спешкі з'есці снеданне і тады спакойна брацца за працу. Тут не трэба як пры каровах ці свінях строга трымацца гадзін. Добрая кабыла, калі кожны год вядзе жарабя, заробіць столькі грошай, што і карова. І не з'есць больш, бо і карову, каб давала малако, пaглядзець трэба. Кабыле трэба пасля пяці-шасці гадоў даць адпачыць, не апладняць. Калі яна добрыя жарабяты вадзіла, тады я яе не пазбываюся, калі слабаватыя — прадаю. Жарабца даўжэй як тры гады трымаць не можна, калі разводзіш статак, бо мусіць быць свежая кроў. Для коней трэба, каб было поле ў адным куску, маладым трэба выбегацца. Я тут, во, вакол хаты запусціў ворнае, дзе пасуцца гэтыя жарабяты. Свой статак утрымоўваю на 10 гектарах зялёнай пашы, крыху пасу на аблозе, і бяру яшчэ 3 гектары ворнага, пад авёс. Аўса даводзіцца, аднак, дакупляць. Купляю таксама крыху буракоў, але занадта не даю, бо буракі аслабляюць.

Ходзім па панадворку, аглядаем аўчарню і дзве стайні, старую і новую. Са старое кабылы могуць свабодна выходзіць і маюць, практычна, неабмежаваны доступ да сена. У новай, цяплейшай, жарэбяцца, тут стаіць таксама жарабец. За стайнямі пруд з лагодна нахіленымі берагамі, з лёгкім прыступам да вады. Раней у гэтым месцы было непралазнае балота. Цяпер пасярод пруда на драўляных палях стаіць невялічкі домік. Адкупіў яго калісьці ад пчаляра яшчэ святой памяці бацька Мікалая. У гаспадарцы быў ён цалкам непрыгодны, а цяпер улюбёнае месца дзяцей. Летам запрашаюць сюды сяброў з горада.

Мяне цікавіць, ці можна выжыць з дзесяці кабыл.

— Гэта залежыць як жыць, — пафіласофску адказвае Мікалай Васілюк. — Пражыць, пражываце, але не разбагацееце. Я, каб былі варункі, узяў бы ў арэнду яшчэ з 50 гектараў. А каб яшчэ такое поле ў адным куску.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**

## Журналісцкі семінар

У днях 29—30 верасня адбыўся ў Супраслі семінар „Лакальная прэса і тэрытарыяльныя самаўпраўленні". Семінар арганізаваны быў Фондам развіцця лакальнай дэмакратыі. Удзельнічалі ў ім журналісты мясцовых часопісаў, м. інш. з Гарадка, Чыжоў і Кляшчэляў.

Заняткі для тутэйшых журналістаў вялі: выдатны рэпарцёр Рышард Вуйцік, аўтар некалькі кніжак і тэлепраграм, і прафесар Ягелонскага універсітэта Ежы Бральчык, вядомы сваімі даследаваннямі мовы сродкаў масавай інфармацыі.

Р. Вуйцік падзяліўся з прысутнымі сваімі роздумамі пра рэпарцёрскі лёс, адказнасць за сказанае і паказанае. Здарылася яму, што героі яго крытычных тэлепраграм памiралі ад хваляванняў.

Прафесар Бральчык зрабіў спярша агульны даклад пра мову мас-медыяў, а пасля паддаў крытычнаму разбору мову паасобных гмінных часопісаў нашага рэгіёна. Найбольш дасталося супрасльскаму часопісу „Z biegiem Sprząśli". Дарэчы, яго журналісты не з'явіліся на семінар, які адбываўся над Супраслю. Ці-то пабаяліся, ці-то палічылі, што больш ведаў ім не трэба. Прафесар пахваліў затое клешчэлеўскі „Co słychać w gminie" і яго сімпатычную рэактарку спадарыню Яновіч.

Апрача вышэйзгаданага, праф. Бральчык правёў яшчэ рабочыя заняткі, у рамках якіх журналісты пісалі працы ў адпаведным жанры.

Арганізатарам не ўдалося правесці семінар згодна з планам. На жаль, расхвараўся Стэфан Братkoўскі, выступлення якога ўсе вельмі чакалі. Не дайшло таксама да дыскусіі журналістаў з бурмістрамі, а было б пра што пагаварыць. Тым не менш, семінар быў безумоўна карысным для мясцовых журналістаў, якім прыходзіцца вучыцца наогул саматугам.

**Алег Латышонак**

## Komunikat

Okręgowa Komisja Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu w Białymstoku prowadzi śledztwo w sprawie zamordowania jednego z więźniów przez wartowników obozu "Zielona". Miało to miejsce podczas prac prowadzonych przy budowie szosy Białystok — Warszawa w miejscowości Rzędziany w okresie okupacji hitlerowskiej.

Wszelkie informacje, pamiętniki, wspomnienia i inne materiały prosimy kierować na adres: Okręgowa Komisja Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu w Białymstoku, ul. Mickiewicza 5, 15-950 Białystok.

**Prokurator**
**del. do Okręgowej Komisji Badania Zbrodni Przeciwko Narodowi Polskiemu**

**mgr Waldemar Monkiewicz**

## Крыху Усходу, крыху Захаду

Стаяла цудоўная сонечная пагода, калі ехаў я па службовых справах у Калінінград. Гэты горад, дзе калісь жыў вялікі вучоны Іманул Кант, вельмі прыгожы. Чуваць тут не толькі расейскую мову, але і многа другіх. Трапіў я на базар, дзе яшчэ перад уваходам стаяць гандляры. Можна тут купіць літоўскія джэмперы па сем долараў за штуку (32 тыс. рублёў), кветкі, семечкі сланечніка. Многа гароднiны і фруктаў. З валізак прадаюць батарэйкі, якіх дарма шукаць у горадзе. Калінінградскі харчовы рынак знаходзіцца каля даваенных выставачных залаў. На плошчы пасярэдзіне некалькі радкоў крамаў. У пераходах паміж імі мясцовыя прадаюць тое, што выраблiюць дома: можна тут купіць цёплыя піражкі з мясам. Найлепшыя месцы на рынку займаюць прадаўцы бананаў, апельсінаў, ананасаў. Яблыкі можна купіць на працягу цэлага года а не, як раней, пры камуне, толькі ў жніўні і верасні. Таму цяпер людзі не робяць запасаў на зіму. У вялікай мясной зале ўмовы не найлепшыя: многа мух і спецыфічны пах мяса; ніхто не звяртае аднак на гэта ўвагі. На круках вісяць свіныя і цялячыя кумпякі. Прадаўцы на месцы адрубваюць тое, што закажа кліент. У другой зале мяса індыкоў і курэй можна купіць па сем тысяч рублёў за кілаграм. Побач прадаўцоў мяса размясціліся прадаўцы каўбас і сыроў. Палова харчоў паходзіць з Польшчы, астатнія з Літвы і Расеі; усё на нейкіх 15 працэнтаў даражэйшае, чым у нас. Самая танная бульба таксама з Польшчы: яе цана ад 1000 да 1300 руб. за кілаграм. Мясцовыя за бульбу просяць па 2,5 тысячы, меншая цана ім не аплачваецца. Памідоры, бананы, вінаград і ананасы паходзяць з польскіх біржаў: іх цана на 20 прац. большая, чым у Польшчы. Вэнджаная рыба таксама прывозіцца з Польшчы, хаця трапляецца і літоўская. З азіяцкіх краін тут часнок і баклажаны.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Прыгода на паліцы

Шмат гадоў бібліятэку ў Пачатковай школе ў Сідры вядзе Галена Сутkoўская. Ёсць у ёй 9 520 кніжак і 328 чытачоў. Са згаданай бібліятэкі пазычаюць кніжкі таксама ў Пачатковую школу ў Бярвісе.

У школьнай бібліятэцы ў Сідры адзначаюць важнейшыя гадавіны з дня нараджэння або дня смерці выдатных пісьменнікаў. Нядаўна адзначалі 85 гадавіну смерці Мар'і Канапніцкай ды 70 гадавіну смерці Стэфана Жаромскага.

У бібліятэцы вельмі прыгожыя насценгазеты, якія зрабіла настаўніца Крыстына Новік.

Найлепшымі чытачамі з'яўляюцца між іншым Бэата Кучынская, Кацярына Новік і Крыстына Трахім. Усе яны вучаніцы старэйшых класаў.

**(яц)**

У Гайнаўцы

## Дом культуры запрашае на выстаўку

15 кастрычніка бягучага года ў Доме культуры ў Гайнаўцы (па вул. Беластоцкай 2) адкрылі выстаўку жывапісу, разьбы па дрэву і інтарсіі трынаццаці мастакоў-самадзейнікаў, якія нарадзіліся на Гайнаўшчыне. Экспазіцыю можна будзе агледзець у любы дзень да 15 лістапада г.г. На ёй убачым работы Баляслава Гвоздзіка, Яна Ігнацюка, Андрэя Міркоўскага, Міхася Назарука, Ірэнеуша Ажахоўскага, Сабіны Пэлшынскай, Малгажаты, Кшыштофа і Паўліны Пражмоўскіх, Бэаты Рэйман, Яна Стаpуня, Тамары Тарасевіч і Сяргея Жэдзя.

Запрашаем паглядзець цікавую выстаўку мастакоў-непрафесіяналаў з Гайнаўшчыны!

**(яц)**

У Нараўцы

## Адноўленая пошта і ...

Сёлета два месяцы рамантавалі будынак пошты ў Нараўцы. Прыватнаму выканаўцы заплаціла Раённая паштовая ўстанова ў Беластоку. Мадэрнізавалі ўсё звонку і ўнутры. Звонку будынак ашалявалі дошкамі, памянялі дах і каміны, затым памялявалі ганак, сцены, аканіцы.

Зараз вельмі прыемна зайсці ўсярэдзіну. Для аднаўлення выкарысталі навейшыя матэрыялы. Усё абсталяванне зроблена па-сучаснаму: пісьмовыя сталы, электронныя вагі, паштовыя скрынкі, навейшае электраасвятленне памяшканняў, дзверы і г.д.

Умовы працы на нараўчанскай пошце — як сцвердзіў яе начальнік Сцяпан Кот — значна палепшыліся. Лепш адчуваюць сябе тут і наведвальнікі.

Спытаў я пра распаўсюджанне „Нівы". У адказ пачуў: „Маем чатыры пастаянныя падпіскі на беларускі тыднёвік і штотыдзень прадаем сем яе экземпляраў. У „Ніве" замала фатаздымкаў цікавых людзей, асабліва жыхароў Нараўчанскай гміны. Забывае рэдакцыя „Нівы" пра пісьманосцаў. Ёсць у нас гмінная газета „Над Нараўкай". Існуе яна год часу, але „Ніва" як бы не заўважае. Журналісты знойдуць у гміне пра што напісаць. Яны павінны арганізоўваць сустрэчы з чытачамі. Ёсць дзе. Маем такі прыгожы Дом культуры ў Нараўцы і такую ж святліцу ў Старым Ляўкове!"

**(яц)**

P.S. „Ніву" можна купіць у Нараўцы яшчэ ў трох ГСаўскіх крамах.

Гмінныя навіны

## Палічылі буслоў

Кожныя дзесяць гадоў праводзіцца перапіс буслоў ва ўсёй Еўропе, у частцы Азіі ды ў Амерыцы. Сёлета займаліся ім між іншым солтысы ў паасобных гмінах.

**У Міхалоўскай гміне** налічылі 73 гнёзды, а ў іх 87 маладых буслоў. Найбольш бусліных гнёздаў знаходзіцца ў салэцтвах: Тапаляны — 14, Шымкі — 9 і Пянькі — 8.

**(яц)**

Вокам падарожніка

## У Янове

... што каля Нараўкі паржавелі таблiцы з назвай гэтай вёскі да такой ступені, што ўжо не прачытаць з іх як яна называецца. Гэтак з абодвух бакоў. „Абляцела" фарба таксама з дарожнага асцерагальнага трохвугольніка ў вёсцы (стаіць ён перад пaваротам).

На абочыне вуліцы ўжо многа гадоў ляжаць тратуарныя парэбрыкі (кравэнжнікі). Многа іх. Відаць, яны тут непатрэбныя.

Не ведаю, ці ноччу ў Янове свецяць электралямпачкі вулічнага асвятлення. Удзень відаць паржавелую электраўстаноўку. Бляшаныя абажуры нават на лёгкім ветрыку пазвоньваюць, варушацца.

**(яц)**

## Культурнае памежжа

У Ілаве, 5 і 6 кастрычніка, даследчыкі славянства сустрэліся на сесіі п.з. „Польшча і ўсходняя славяншчына — культурнае памежжа". Прыехала больш за 70 вучоных з 9 краін. Была гэта ўжо шостая сесія, арганізаваная Інстытутам усходняй славяншчыны Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне разам з уладамі Ілавы пры дапамозе спонсараў: Міністэрства нацыянальнай адукацыі, бурмістра горада Ілава і Згуртавання супрацоўніцтва Польшча-Усход. На сесіі гаварылася, што цяпераака русістыку дасягнуў крызіс, бо руская мова перастала быць прывілеяванай. Прысутныя прапанавалі дапамагчы русістам расшырыць круг іх навуковых зацікаўленняў: беларускай і ўкраінскай мовай і культурай з увагі хаця б на тое, што ў межах Польшчы пражываюць гэтыя меншасці. Плануецца ўрачыстае адзначэнне 200-х угодкаў нараджэння вялікіх паэтаў: Міцкевіча і Пушкіна, што стала б нагодай да размовы пра польска-расейскія сувязі. У 1988 годзе ў Польшчы адзначалася тысячагоддзе хрышчэння Русі; праз год міне 400 гадоў ад прыняцця Брэсцкай уніі. Прадметам зацікаўлення ўдзельнікаў канферэнцыі была таксама творчасць Юзэфа Чапскага і Сакрата Яновіча, а таксама фальклор і літаратура беларусаў і украінцаў.

**Андрэй Гаўрылюк**

# УЦЯЧЫ АД СМЕРЦІ

*Яны былі нявыгаднымі сведкамі. І былі беларусамі. Таму мусілі згінуць. Сярод вазакоў, якіх у канцы студзеня 1946 года ў Лазіцах узяў „Буры", быў і* **Васіль Лукашук з Чыжоў.** *У лес у Пухалы-Старэ не трапіў з таварышамі падарожжа толькі таму, што не меў ніякіх ілюзій, чым яно закончыцца.*

Выслалі нас па дровы для гміны. Наша гміна была тады ў Орлі. Камендант Кавальскі прыслаў двух паліцыянтаў да паўсолтыса, каб той даў людзей, якія не мелі адробленага шарварку. Нас здзівавала тое, што пастарунковыя бралі ўсіх пад распіску, раней такога ніколі не было. Мой старэйшы брат кажа: „едзь". Паехалі мы праз Арэшкава ў Лазіцы. Не даязджаючы дзесьці з паўкіламетра, сусед з другой фурманкі паказвае: „Во, глядзі, салдаты стаяць". Ну стаяць, то стаяць, ці мала ў той час было войска. Яны да нас нічога не маюць, мы да іх таксама. Толькі бачым, што войска ў польскай форме.

Уязджаем мы ў Лазіцы, невялічкая такая вёска, а нас тыя салдаты бяруць і сартуюць — з горшымі коньмі і вазамі налева, а з лепшымі — направа. Я папаў у другую групу. Там стаялі ўжо вазы, але не такія як нашыя, а якіясьці іншыя, з дышлямі. Мы давай распытваць людзей у цывільным на вазах, што тут робіцца, але яны, мазуры, з намі гаварыць не схацелі.

Пасартавалі нас па чатыры фурманкі на панадворак і загадалі коней карміць, у вазах калі што, паправіць, класці салому ў гнаіўніцы. Мы пытаем, а што з метрамі, па якія нас паслалі. „За тое, што вы нас падвезяце, дамо такую паперу, што год вас на ніякі шарварак браць не будуць", — адказалі нам. Ну, мы выехалі адтуль гэтым самым гасцінцам, што і прыехалі — на Арэшкава, у бок Гайнаўкі. Маса войска было, мусіць з пяцьсот. Да нас на фурманкі селі па чатырох. І былі ў іх, здаецца, восем вазоў са зброяй, то тымі самі кіравалі, без фурманоў.

Пад'ехалі мы пад Юдзянку, то ўжо змеркла. Бралася зорная ноч, але без месяца. Было марозна, аднак без снегу. Нам сказалі чакаць у гэтай Юдзянцы, а самі палезлі на слупы, перарэзалі, мусіць, тэлефонныя лініі. У Гайнаўцы разбілі пастарунак, дзе цяпер станцыя PKS. Пайшлі па горадзе, відаць партыйных шукалі, дакладна я не ведаю, бо гэтага сам не бачыў. Вярнуліся яны не раней як праз гадзіну. Па дарозе заскочылі на станцыю, а там рускае войска з Германіі вярталася. Салдаты якраз мыліся, то яны афіцэра — маёра — узялі ў адной бялізне, і так прывязлі яго, не далі адзягнуцца. Везлі яго на чацвёртай за мною фурманцы. Як уехалі ў такі маладняк, то ён скочыў між кусты. Яны застрачылі з аўтамата, але адзін закрычаў, каб больш не страляць, відаць, пагоні баяліся. Яго ніхто спецыяльна не гнаў, адбеглі з ліхтарыкамі метраў пяцьдзесят у лес і назад. Спяшаліся. Чуваць было, як лаяліся: *K...a mać! Żeby wypuścić z rąk!*

Ехалі так, што ўвесь час леваруч відаць была сцяна лесу.

### Заехалі да Залешан.

Бралася на свет. Акружылі вёску, нікога адтуль не выпусцілі, але, хто ехаў у сяло, таго пускалі. Нас зноў паставілі па чатырох на падворках і загадалі коней карміць. Ужо ў нас не было чым, то казалі браць авёс у гаспадароў.

Дзесьці так а дзевятай дазволілі палякам, якія кінуць Залешаны двум палякам, якія там жылі, і з дабыткам выбрацца на хутар. Да абеду была цішыня, а пасля абеду, у дзве гадзіны пачалі рабіць *zebranie*, на якое казалі з'явіцца тым, каму сто гадоў і тым, хто толькі што нарадзіўся, бо то *pokazowe*. Шэсць чалавек на нашых вачах расстралялі. Там быў солтысаў сын, 16-гадовы, пыталі яго, хто ў партыі. Не сказаў.

І тады сагналі ўсіх у хату, а мы выехалі на дарогу і чакалі за вёскай, на агульным выгане. Каля кожнага з нас стаяў акавец, а тыя, што рабілі сход, пачалі страляць па будынках і ўмомант усё загарэлася. Папытаўся я ў свайго вартаўніка, куды мы едзем і як доўга мы іх вазіць будзем, *może aż do Wielkanocy przyjdzie się?* Ён малады такі



*Васіль Лукашук вярнуўся...*

хлопец быў, кажа, што за Буг яны падаюцца, а мне ано сказаў: *albo wrócisz się, albo i nie.* Два разы паўтараць гэтага не трэба было. Калі толькі была нагода перакінуцца слоўкам, кажу хлопцам, уцякайма. Але яны баязлівыя былі, а хто каня шкадаваў.

Як толькі тыя з вёскі далучыліся да нас, паехалі мы на захад.

### „Буры" ехаў на фурманцы спераду з адным капралікам.

Гэта быў мужчына гадоў сарака з лішнім. Вылучаўся тым, што не быў у мундзіры, а ў скуранай тужурцы і ў такой жа шапцы, без казырка, як лётчыкі.

Я еду і ўвесь час шукаю зручнага моманту, каб даць драла. Уцёкаў я не баяўся. Мне быў тады 21 год і раней ужо неяк пашанцавала мне з Германіі ўцячы, з-пад Кёнігсберга. Дахаты вярнуўся перад самым фронтам, яшчэ пару дзён хаваўся, але зараз саветы прыйшлі. Так што, думаю, і тут неяк будзе, абы толькі нагоду не праваroніць. Але ўздоўж табара скакалі кавалерысты, шасцёх іх, здаецца, было, пільнавалі, каб вазы не адставаліся адзін ад аднаго.

Ехалі мы так кіламетраў дзевяцьдзесяць. Мусіць пад дзесяць гадзін пад'ехалі пад Вольку-Выганоўскую. Першым чынам двор запалілі, там ужо калгас арганізавалі, ці што. Яны там не спыняліся, толькі на хаду палілі. Разбегліся па вуліцы, то тут запаляць, то там. Тыя, якіх я вёз, зноў саскочылі з воза і я астаўся толькі з адным. Аж тут хтосьці застрачыў і ўжо наперадзе нас загарэлася. Там з аднаго боку вуліцы стаялі хаты, а з другога гаспадарчыя будынкі. І такая маленькая клунька, вядома ж, саломаю крытая, пачала дыміць. Мы да яе даязджаем, а чорны дым аж на вуліцу сцелецца, гэта пакуль яшчэ ўспыхне агонь. І я, доўга не думаючы, ссунуўся з воза і як не кінуся ў той дым, а там на гарод і ў баразну. Зямля шэрая і ў мяне такая ж шэрая бурка была. Я ляжаў, баяўся ўставаць. Толькі калі пабачыў агонь далёка наперадзе, так з два кіламетры ад майго месца і навокал не было чуваць стрэлаў, падняўся.

Пераначаваў я ў аднаго дзядзькі на хутары. Той расказаў, што там часта розныя хадзілі і грабілі. Раніцай вывеў мяне ён на дарогу і кажа, што гэта тая самая, якою мы прыехалі (а хто іх там пазнаў бы, ноч жа была) і я пайшоў назад.

Зайшоў я ў Залешаны, а там яшчэ ўсё дыміць. Ад спаленага хлява была смурод ідзе. Дзе падпаленая карова мычыць, дзе іншы дабытак вішчыць. Людзі расказвалі мне, што, як загарэлася хата, у якую іх загналі, то яны датрывалі ў сярэдзіне, пакуль столь не занялася. А тады кінуліся ў вокны. Але хату яшчэ абстрэльвалі, то некаторых так і пакалі пад тым акном, але астатнія ўцяклі. А партыйныя выйшлі на гэтым найлепш, бо прадчуваючы ліха, пахаваліся, хто ў пограб, хто дзе. Як пачало гарэць, то тыя ж не пільнавалі дакладна кожнага падворка, толькі запальвалі і ішлі далей. Дык схаваныя былі блізка дабытку і ячшэ мелі час павыпускаць яго.

Казалі людзі, што камендант Кавальскі быў у гэтай бандзе, але я яго на свае вочы не бачыў.

**Расказ Васіля Лукашука**
**запісаў**
**Мікола Ваўранюк**

# КРАІНА БЕЗ ЦЭНЗУРЫ

У пачатку кастрычніка не паказаліся ў продажы ў Беларусі тры апазіцыйныя тыднёвікі — „Народная воля", „Імя" і „Беларуская дзелавая газета". Афіцыйна ніхто не забараніў іх, бо афіцыйна няма цэнзуры ці іншага закону, які дазваляў бы ўладам абмяжоўваць свабоду слова. Часопісы не паказаліся ў руках чытачоў, бо ніводная паліграфічная фірма не захацела іх прыняць у друк. Паліграфічныя паслугі на Беларусі амаль поўнасцю кантралююцца дзяржаўнай адміністрацыяй, прыватныя, невялікія друкарні, па-першае, не маюць такога абсталявання, каб друкаваць газеты, а па-другое, не адважацца дэманстрацыйна выступіць супраць волі прэзідэнта і паставіць сваю маёмасць пад пагрозу канфіскацыі. Хапае, што раённы ўраднік можа адмяніць канцэсію на друк, прысланць кантроль па справах фінансаў, ладу і парадку ці санітарнага стану. На кожнага чалавека нейкі параграф заўсёды можна знайсці.

Ужо ў першых месяцах свайго панавання Лукашэнка абмежаваў уладу заканадаўчых органаў амаль да нуля, затое ўстанавіў сваю адміністрацыю — вертыкаль — якая не падлягае амаль ніякаму кантролю. Пад спецыяльнай аховай прэзідэнта апынуліся такія службы як палітычная паліцыя (КДБ), вайскова-міліцэйскае фарміраванне АМОН і сама міліцыя. Традыцыяй лукашэнкаўскай эпохі сталі ўжо г.зв. „неплацяжы". Настаўнікам, рабочым па некалькі месяцаў не выдаюць зарплаты, але паліцэйскія службы маюць яе заўсёды тэрмінова і ў сярэднім у тры разы большую чым тых, якія, напрыклад, адказваюць за адукацыю народа. Пабоі дэпутатаў ад апазіцыі ў красавіку гэтага года адкрылі новы перыяд дыктатуры Лукашэнкі. Нават перастаў ён скрываць свае імкненні да пабудовы аўтарытарнага рэжыму. Следам Мусаліні любіць ён паўтараць: „Народ дал мне власть и я её использую".

Беларускае тэлебачанне перад і падчас рэферэндуму і парламенцкіх выбараў было найлепшым прыкладам таго, у які спосаб улада можа выкарыстоўваць сродкі масавай інфармацыі для сваіх мэтаў. У планах прэзідэнта было схіліць падданых паспяхова перагаласаваць падчас рэферэндуму па пастаўленым ім пытанні і прытым не выбраць новы парламент. Таталітарная прапаганда, маючы ў сваіх руках электронную тэхніку, як аказалася, можа дасягнуць пастаўленыя сабе мэты ў некалькі разоў хутчэй, чым гэта было ў час Суслова. Хаця, згодна з законам, рэферэндум не даў прэзідэнту падстаў памяняць гістарычную сімволіку вольнай Беларусі на сімвалы зняволенага краю, Лукашэнка зрабіў гэта не зважаючы на канстытуцыю. Яго людзі ў варварскі спосаб апаганілі святы беларускі сцяг. У нармальнай краіне такімі парушэннямі закона займаюцца праваахоўныя органы, але ў таталітарнай краіне, якой памалу становіцца Беларусь, ёсць толькі адзін пракурор і суддзя ў адной асобе.

На шчасце для беларусаў і Беларусі дыктатура Лукашэнкі пакуль што даволі лагодная. Некаторыя дзеянні і метады прэзідэнта напамінаюць першы перыяд улады Мусаліні, іншыя — „санацыю" Пілсудскага. Маршалак Пілсудскі таксама кіраваў дзяржавай пры дапамозе вайскова-паліцыйнай дысцыплінавай кадры, дзе ўсе канчатковыя рашэнні аставаліся ў яго руках, захоўваючы прытым слабенькі, безупынна кампраметаваны парламент. Улада Пілсудскага трымалася на аўтарытэце дыктатара. Хаця былі і выбары, і парламент, то аб тым, хто будзе прэзідэнтам, прэм'ерам ці міністрам, рашаў Пілсудскі. І ніхто не сумняваўся, што так быць павінна.

Фашыстоўскія і камуністычныя рэжымы перш за ўсё ўзнікалі пры дапамозе мілітарызаванага грамадскага руху. Невядома толькі чаму такі рух называлі партыяй, калі ён не меў ніякіх прызнакаў традыцыйных партый. Крыніцай улады быў I сакратар, фюрэр, дучэ і іх партыі. Так у сапраўднасці выпаўнялі яны ў адносінах да адміністрацыі тую функцыю, якую ў дэмакратычных сістэмах маюць усялякія прадстаўнічыя органы ўлады — саветы, рады, сеймы, парламенты. Структура ўлады ў Беларусі не мае класічных прыкмет ні фашызму, ні камунізму. Больш яна падобная да ўсходнееўрапейскіх рэжымаў трыццатых, ці паўднёваамерыканскіх сямідзесятых гадоў.

Асаблівасць панавання Лукашэнкі заключаецца не ў папулізме прэзідэнта, бо гэта прыкмета большасці дыктатараў, але ў тым, што маючы абсалютную ўладу і поўны кантроль за сродкамі масавай інфармацыі не паспрабаваў прывесці эканамічныя рэформы. Усе дыктатары, маючы неабмежаваныя сродкі, у кароткім часе папалілі ажывіць гаспадарку, паказаць грамадству сваю незвычайнасць. Не кожны быў эканамістам, але кожны дазволіў спецыялістам працаваць на хвалу свае дыктатуры. Лукашэнка хоча ўсё зрабіць сам, лічыць сябе — як відаць па яго тэлевізійных выступленнях — спецыялістам і па справах прамысловасці, спорту, фінансаў, банкаў, культуры, гадоўлі кароў, курэй, асветы, а нават інтымных патрэб усіх жанчын. Безупынна круціцца ў крузе сацыялістычных і савецкіх варыянтаў існавання гаспадаркі. Як бы не заўважыў, што навокал усё змянілася. Нават любімая яму Расея паехала ў іншым напрамку, чым выбраў Лукашэнка. Будаваць „рыначны сацыялізм" гэта тое самае, што на „агністай вадзе" варыць суп. Архаічная гаспадарка можа аказацца чымсьці найгоршым для будучыні Беларусі. Г.зв. „працоўныя масы" могуць не вытрымаць штораз больш жахлівых умоў штодзённага жыцця. Смешнай стане практыка прэзідэнта ўказваць пальцам на штораз новых ворагаў. Маладыя дыктатуры аднак жартаў ніколі не ведалі, ніколі таксама не сходзілі з палітычнай сцэны добраахвотна. У красавіку і ў верасні гэтага года Лукашэнка паказаў, што з яго пункту гледжання ёсць сэнс добра плаціць паліцэйскім службам. Нядобра было б, калі б гэтыя фарміраванні пераўтварыліся ў асноўную апору ўлады прэзідэнта.

**Яўген Мірановіч**

*Сакрат Яновіч*

# Беларусь забіваюць, ледзь нарадзіўшы

У Гродне даволі ўжо падобна, як і ў нас, толькі брудней, калтыжней. Калі хто хоча заходняга тавару, то купіць. За долары поўна яго, а адно цэны вышэйшыя, чымсьці ў Польшчы, што звязана з вялікімі падаткамі ў Беларусі. Гродна і Брэст уяўляюць сабою не шырокую паласу параўнаўчага дабрабыту; чым глыбей у Рэспубліку, тым галей. Справа ў спекулянцкім памежным гандлі: цягнікі з Беластока перапоўнены да немагчымага, здавалася б (я са сваім падарожным чамаданікам сілком убіўся ў вагон, кандуктар дацiснуў дзвярыма мне ў спіну, каб не выпасці на перон). Быў я найлягчэй гружаны чалавек на станцыі ў Саколцы, дзе пануючай мовай ёсць расейска-беларуская трасянка, з ужо польскімі дадаткамі.

Зноў валокся да саветаў (па сваёй наіўнасці), будучы шумна запрошаным на другія Купалаўскія чытанні ў гарадзенскім універсітэце (3—6.X). Імпрэза аказалася прафесарскай, з планаванай лічбай дакладаў пад сорак на два дні пасяджэнняў, але, на маё шчасце, палова запрошаных не прыехала або праігнаравала мерапрыемства, нягледзячы на яго ўсебеларускі ранг. Нельга, аднак, разумець гэта як праяву злое волі. Прычына адсутнасці банальная: бракуе грошай на камандзіроўкі (для мяне не, бо я за свае з'явіўся). Тым не менш пачатак быў пышны, у актавай зале, у якую напрыходзіла студэнтаў. Меліся мы заслухаць перш прывітанні ад уладаў, у іх ліку і ад Міністэрства адукацыі і навукі, але ніхто з дзяржаўных урадн ікаў не рачыў ушанаваць нас увагаю, палітычна слушным палічыўшы, відаць, што беларускае трэба традыцыйна глушыць у Рэспубліцы Беларусь... Іначай, зрэшты, не магло стацца: замест сімволікі Беларускай ССР, красаваліся не ў смак ім бел-чырвона-белыя колеры і Пагоня. Інтэлігенцыя ненавідзіць Лукашэнку, нават і тая рускамоўная, затое люд моліцца на яго, быццам на цудатворнага Міколу (акрамя, вядома, тых, хто паспеў пабываць хаця б у Беластоку). Таму так важнае захаванне празрыстасці дзяржаўных межаў, каб нічога добрага не бачыўшы народ крыху паездзіў па свеце.

Інаўгурацыйныя аратары гаварылі пра капітальнае: асэнсоўванне літаратурнай спадчыны Купалы на фоне сучаснага грамадскага стану Беларусі; паэзія Купалы як нацыянальная духоўная каштоўнасць; біблейскія вобразы і хрысціянскія матывы ў ягонай творчасці. Далі голас і мне, дарэчы: адзінаму замежнаму госцю. Выступаў я з тэмаю *Канец купалаўскай уяве нацыі*. Наша драма нават не ў мужыцкай абмежаванасці, а ў тым, што не ўдалося нам пасля 1920 г. прабіцца да ўласнае дзяржаўнасці, у чым зайздросцім сёння — не менш некалі халопскім — фінам, эстонцам, латышам, літоўцам і іншым **сялянскім** народам ажно па Македонію. Гэтая запозненасць збеглася цяперашнім часам са знікненнем вёскі, а разам з ёю і мовы, што дае парадаксальны эфект існавання Рэспублікі Беларусь насуперак волі народных яе мас. Што і казаць: беларусы — гэта ўнікальнае дзіва, не нацыя, але **антынацыя**, а яе дзяржава павінна называцца, папраўдзе, Рэспублікай Антыбеларусь... Проста наванітная агіда да роднага слова бярэцца не з імкнення да, так званых, вышэйшых культураў; гэта ўсяго папулярны міф. Праўда тут вульгарнейшая — беларушчына засталася ў памяці пакаленняў як знак беднасці і забабонаў, таму адбываецца — гэтаксама забабонная — **магія** пракляцця беларускаму слову, што павінна (на думку сучаснага язычніка) абараніць ад вяртання ў голад і лапці. У Беласточчыне пальшчызна і ў Рэспубліцы *русская словесность* маюць чарадзейна гарантаваць белы хлеб з маслам і шынкаю. Фінал таго няцяжка прадбачыць: дзесяцімільённую Беларусь Расея не возьме на свае ўтрыманне толькі таму, што прэзідэнт постмужыкоў абяцае слёзна паўзці на каленах у Маскву. Большыя шанцы ў беластоцкіх халопаў: іх мала, пару сотняў тысяч, і да кагосьці ў прыпражку лягчэй упросіцца. Такі парабак надта ж працавіты!

Праграму Купалаўскіх чытанняў задумалі з перапынкамі на экскурсіі. Наведалі музей Максіма Багдановіча. У мяшчанскім доме, у якім пражыў ён з бацькамі каля пяці першых гадоў (на даўняй Новай Садовай). Ашаламіла мяне інфармацыя Данусі Бічэль, дырэктаркі і выдатнай паэткі ў адной асобе: цікавасць да гэтага святога месца блізкая нулю! Калі хто бывае тут, то — акурат — не людзі культуры, але тэхнікі, юрысты, майстры з фабрык, часам рабочыя. Гэта вынік нізкага статусу гуманітарных навук, куды ідуць вучыцца тыя, пераважна, каму не пашанціла дастацца на *лепшы* факультэт. Адпадкі. Неўдалоцце.

Незабыўнае ўражанне пакінула азнаямленне з археалагічнымі раскопкамі на гарадзенскім замку, т.зв. Верхнім. Вецер гісторыі ўсенька засыпае смеццем і зямлёю; дзядзінец-гарадзень апынуўся пад дзесяціметровым слоем грунту (лічы — метр за стагоддзе). Вадзіў нас Алесь Краўцэвіч. Ён амаль паўжыцця тут **капаецца**. Сенсацыйна прагучала яго тэза адначаснага ўзнікнення гарадоў у Панямонні якраз напрыканцы дзесятага стагоддзя, што трэба вязаць з уцякаючымі сюды славянскімі язычнікамі, якія не прымалі хрысціянізацыі Уладзімірам Вялікім сваіх уладанняў (988 г. і потым). Паміж Палессем і Нёманам не было тады Русі, а Яцвягія, яе ўсходнія воласці. Паслейшая Чорная Русь з Гародняй, Ваўкавыскам, Слонімам апынуліся ў абсягу рук кіеўскіх князёў не адразу; мелі месца шматлікія ваенныя паходы. Яцвягі хадзілі з разбоем па здабычу — таксама — і ў Польшчу, палячы тамашнія пасады. Даследаванні археолагаў паказваюць, што заснаваныя ў іх старонні славянамі дзядзінцы не былі імі атакаваныя; наадварот: адбываўся гандаль нарабаваным дабром, прыбывала будынкаў і месцічаў (мяшчанаў, так бы мовіць) з яцвяжскага наваколля. Гэты, няроўны цывілізацыйна, сімбіёз мусіў з вякамі закончыцца татальнай славянізацыяй. А пакуль што з'явіліся крыжакі, якія, разбіўшы — у палове трынаццатага стагоддзя — ядро Яцвягіі, ладзілі мечаносныя рэйды аж пад Навагрудак, не раз штурмуючы і Гародню. Яны апусташалі ўсё тую ж Яцвягію з паўславянскімі на яе прынёманскім усходзе цвердзямі. Са старадаўніх хронік ведаем, што вадзілі з сабою перакладчыка з паняволенай Прусіі, дзеля перамоваў з гарадзенскімі абаронцамі. І яшчэ цікавінка: людзі тае пары, якую нам і ўявіць цяжка хоць на момант, былі дробнымі і нізкімі, ростам найчасцей крыху за паўтара метра. Што ж: не тая ежа і не тыя варункі, што цяпер. Шчыльнасць насельніцтва? Сённячы адна Гародня мае яго больш, чымсь уся тадышняя т.зв. Кіеўская Русь.

Раскватаравалі нас у турыстычнай базе *Нёман*, што ў дарэчным лесе. Усіх назбіралася каля дваццаці чалавек і, бы тыя рыбкі ў акварыуме, удосталь наплываліся мы ў патрыятычна-беларускай тэматыцы. Ці пацікавілася намі нейкая тайная служба, сумняваюся; зусім без грамадскага значэння зборышча акадэмікаў, прафесараў, літаратараў *и прочих умников*. Адны — без публікі — дакладчыкі, нават і я. Пераконвалі пераконаных, усведамлялі ўсведамлёных. Нагадвала ўсё тое нараду рэдактараў поўнага збору твораў Янкі Купалы, з кампетэнтнымі каментарыямі, чымсьці Купалаўскія чытанні, менавіта, як публічную імпрэзу. Не скажу, сяго-таго карысна было паслухаць, але, разам з тым, і сумна рабілася на душы.

Не буду пераказваць рэфлексіяў наконт стану даследаванняў спадчыны Купалы, сітуацыі беларускай культуры, мовы. Абрыдла! І проста няма здароўя слухаць таго! І трэба ж пажыць, звычайна, зрабіць тое, што магчымае і яшчэ не страціла сэнсу.

У заканчэнне — банкет, неблагі для гэткае жменькі, бо разлічаны быў арганізатарамі на ўтрая людней шую аўдыторыю. Займальна спяваў калектыў *Гарадніца*, трохі і архаічных песняў, ад якіх павеяла на мяне запамятанымі ўспамінамі бабулі пра паншчыну, карчму ў Крынках ля радзівілаўскага касцёла, і царскі маніфест аб адмене прыгону, прачытаны бацечкам пасля багаслужбы ў саламянай царкаўцы, з якой вярталася яна дамоў у тое прадвесне басанож, пераскокваючы лапікі лёду і снегу з вурклівымі ручаінамі... І мой прадзед Антошка, буян быў вечны даўжнік карчмара Шлёмы.

Харысты як харысты: пяяць па-беларуску, дык чаму не, пяюць, і з натуральным акцэнтам, але, каб гаварыць, то не; рыхтык як нашы, беластоцкія, патрыятычныя напаказ. Людзі-шыльды ў крывіцкіх строях.

Вельмі шчасліва здарылася, што запрасілі і небезвядомага Віктара Шалкевіча. Яго прыватны канцэрт няхутка забудзецца. Паэт і бард, надзвычайнай рэдкасці талент. Піша балады-эсэ, спявацкія трактаты пра Беларусь і беларушчыну, а ў іх цэлы свет выяўляецца, бы на фота-клішэ. Чаго толькі вартая такая яго фраза *Добрай раніцы, жлобская нацыя!*

І быццам у намёк на ўклад жыдоў у развіццё беларускай нацыянальнай культуры, а можа і антысемітам, якія забываюць, дзе аб'явіўся Бог і што Хрыстос гаварыў выключна па-жыдоўску (дакладней: па-арамейску), Шалкевіч праспяваў настальгічнае: *Пачакайце, жыды, пераменіцца час... Не ўцякайце...* Кантэкст тых радкоў нам, у Беластоцкім краі, можа аказацца незразумелы, але ў Беларусі ловяць тое *другое дно* ўмомант: жыд усяму вінаваты, а беларусу бракуе аднаго, крылаў анёла.

Потым, перад вяртаннем у свае Крынкі, паўночы прагаварыў я з Шалкевічам за вячэрай у Міхала Карневіча на старой Батанічнай у Гародні (рэдактар беларускай праграмы радыё Літвы). Дзеля хаця б гэтае сустрэчы варта было мне паехаць туды. І, нарэшце, памыўся ў даваеннай кватэры, адагрэўся, бо ў *Нёмане* не было такое раскошы, а спалася пад трыма пледамі, і ў світры нацягнутым на піжаму. Што ні вечар бачыў прэзідэнта Лукашэнку ў пакаёвым тэлевізары, які, на пацеху нічога не разумеючага ў сваёй нядолі народу, па-камісарску мяшаў з зямлёю міністраў і ўгадованых чыноўнікаў, усё роўна што ад тае лаянкі назаўтра як бы пасыплецца манна з неба. І смешна, і страшна, і жаль прасцякоў.

*Віктар Ярмалковіч*

# НА ЖЫЦЦЁВЫХ ХВАЛЯХ

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

## Дарога

Раніца спачатку была шэрая і халодная. Пазней туман рассеяўся і паказалася залатое сонца. Натоўп бярозаўскага народу заварушыўся і паплыў далей. Немцы, якія былі сярод нас, дамовіліся з нямецкімі салдатамі, каб тыя не затрымоўвалі вязняў. Так мінулі мы Кобрын. Тут частка украінцаў павярнула на поўдзень, а іншыя, таксама як і мы, пайшлі на Бярэсце.

Па дарозе з грукатам і шумам праляталі нямецкія машыны. Усе нямецкія падраздзяленні былі матарызаваныя. Машыны везлі салдат, цягнулі гарматы. Несліся, аж зямля дрыжэла, механізаваныя кухні і пякарні.

У адным месцы трапілі мы хіба на абед. Нямецкі салдат з тэрмасаў налівае суп. Нас пачаставаў таксама. Суп быў гарачы, густы, з мясам. Які ён для нас, згаладалых, быў смачны, не трэба хіба гэтага і даказваць.

Познім вечарам, ледзь цягнучы за сабою ногі, дабраліся мы да Бярэсця, дзе накіравалі нас у школу. Была там падрыхтаваная салома і мы спыніліся ў ёй на начлег. Зараз жа пачаліся нарады: як быць далей, куды ісці, што рабіць? Украінцы былі неспакойныя. Многія з іх вырашылі ісці на захад. Нічога іх добрага не чакала. Іхныя разведчыкі паведамілі, што мост на Бугу займае нямецкае войска і нікога, апрача немцаў, праз яго не пускаюць. Такі, відаць, быў іхны дагавор з Савецкім Саюзам. Гэта ўкраінцаў не затрымала. Рашылі яны прабірацца цераз Буг, бродам, які паказалі мясцовыя жыхары.

Адпачыўшы і пераначаваўшы ў Бярэсці, наша група ў складзе ўжо толькі сямі чалавек на золаку накіравалася на поўнач. Ішлі мы пехатою ўздоўж чыгункі. Цягнікі яшчэ не ездзілі, а іншага транспарту акурат не было.

Апаў туман, раз'яснілася неба, ізноў стала прыграваць сонца, а мы перасоўваліся далей і далей. Прыглядаліся мы па дарозе распілаваным мясцамі чыгуначным рэйкам, час ад часу міналі свежыя яшчэ варонкі ад бомбаў, праходзілі каля разбітых цягнікоў. Дзе-нідзе тырчэлі па дарозе коміны спаленых хатаў. Пры некаторых вёсках стаялі прывітальныя брамы. У адных вёсках віталі імі Чырвоную Армію, у другіх — нямецкае войска, а ў яшчэ іншых стаялі па дзве брамы — адным і другім.

Была ў нас адна торба, якой апекаваліся Паўлюкоўскі і Шнаркевіч. Складвалі мы ў яе ўсё, што ўдалося нам раздабыць. У адным месцы трапілі мы на ўборку кавуноў. Былі яны невялікія і трохі яшчэ няспелыя. „Бярыце", — казаў гаспадар. Я тады яшчэ і не ведаў, што можна іх есці сырымі; думаў, што гэта звычайныя гарбузы, але браў, бо быў галодны. Акрамя гэтага пачаўся клопат з нагамі, бо ў чаравіках паадставалі падэшвы.

Змучаныя хадой, пачалі мы раздумваць, як аблягчыць сабе дарогу. На нейкай станцыі знайшлі мы ваганетку. „Бярэм яе", — падаў думку хтосьці з групы. „Бярэм!" — падхапілі ўсе астатнія. І так пачалі мы ехаць. Праўда, не ўсе, бо двух мусілі пхаць ваганетку, але было нам ужо намнога выгадней.

Мінуўшы Чаромху, наткнуліся мы на рэшткі падраздзялення польскага войска і на паліцыянта. Салдаты былі ўстрывожаны, трывожыліся і мы. „Як далёка швабы?" — пыталі ў нас. Паліцыянт меў ровар, салдаты ішлі пешшу. Не сталі мы доўга размаўляць, бо спяшаліся як мага хутчэй адысці з гэтага месца. Берагам лесу, на падводах, прабівалася на захад іншае падраздзяленне. Было гэта тады апошняе нашае спатканне з польскім войскам.

Быў поўдзень. Хацелася есці. Зайшлі мы па дарозе да адной хаты і трапілі якраз на абед. За сталом сядзеў барадаты, пажылы гаспадар. На сцяне вісеў цэлы рад ікон, а перад імі ў куце палілася лампадка. „Вы хто такія?" — запытаў нас. Доўга нам не прыйшлося тлумачыць, хто мы такія і адкуль. Гаспадар грозна глядзеў на нас і паўтараў: "Еслі палякі то... вон!" У рэшце рэшт загадаў нам сесці за стол, а жонцы — наліць міску капусты. Сам накроіў нам хлеба.

На гэтым прыкладзе мы пераканаліся, да якой ступені мясцовае насельніцтва было раздражнёнае санацыйнымі парадкамі, і не сталі гэтаму дзівавацца.

*(працяг будзе)*

Зорка
старонка для дзяцей

# У Залуках



*Сфатаграфавацца хацелі ўсе вучні.*

У Залуках многія дзеці вывучаюць беларускую мову. Вельмі любяць гэты прадмет, пра што красамоўна сведчыць вялікая колькасць выдатнікаў.

У пачатку кастрычніка „Зорка" наладзіла сустрэчу з усімі дзецьмі, якія наведваюць урокі роднай мовы. Якраз быў цёплы, сонечны дзень. Пазалацiліся дрэвы, а ў паветры насілася бабіна лета. Таму і сустрэчу наладзілі мы на школьным панадворку, дзе стаяць драўляныя лавы, растуць кветкі і многа дрэў. Так правялі мы цэлую гадзіну. На перапынку далучылі да нас усе дзеці са школы. Разам рабілі мы здымкі і гаварылі пра ўсялякія справы.

— Найбольш любім беларускія песні, — адзначылі мае новыя сябры з Залук.

Хлопцы таксама мелі чым пахваліцца. Расказвалі яны пра свае зацікаўленні. Найбольш радасці выклікалі размовы пра дзяўчат і пасляўрочныя гульні.

Варта адзначыць і такую асаблівасць: сярод выдатнікаў — адны дзяўчынкі. У адрозненні ад сваіх сяброў, гаварылі яны пра літаратуру. Найбольш спадабаўся ім твор старажытнага, ананімнага паэта „Слова пра паход Ігара". Чыталі яго на ўроках, якія вядзе пані Лілея Чэпель. Выдатніцы — Аня Сакалоўская і Эва Аўсянюк з VI класа, Ася Грушэўская і Аня Дробат з VII кл., Эва Каранкевіч з VIII кл. і Наталька Паплаўская з III кл. — вельмі любяць урокі беларускай мовы.

Аня Сакалоўская цікавіцца таксама інфарматыкай. Пасля ўрокаў гуляе з камп'ютэрам. Усе вучні з Залук паабяцалі супрацоўнічаць з „Зоркай", прымаць удзел у розных конкурсах, стаць карэспандэнтамі.



*Гэтыя дзеці вывучаюць беларускую мову.*

У школе толькі 52 вучні. Ад новага года колькасць дзяцей павялічыцца, дойдуць дзеці з вёскі Валілы, якія зараз даязджаюць у Гарадок. У школе вядзецца неабходны рамонт. Тут, як мала дзе, дзеці не маюць цяжкасцей з вывучэннем беларускай мовы. Дыялект, на якім гавораць у вёсцы, вельмі набліжаны да літаратурнай мовы.

— Калі мы гаворым са старэйшымі людзьмі, то ніколі не карыстаемся польскай мовай, — сказалі дзеці.

Усе яны хацелі б часцей удзельнічаць у дэкламатарскіх конкурсах, сустракацца з аднагодкамі з Бельска, Гайнаўкі ці Чыжоў. Незабыўнае ўражанне пакінула таксама паездка на фестываль беларускай песні ў Беласток. Праўда, не выступалі на сцэне, але і самая прысутнасць на такім свяце прынесла ім нямала радасці.

— Шкада толькі, што ў наваколлі няма сярэдніх школ, у якіх нашыя дзеці маглі б працягваць навучанне гэтага прадмета, — сказалі настаўнікі.

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**




**Дарагая „Зорка"!**

Мяне завуць Марылька Бандзюк. Я вучаніца VI класа Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

На канікулы я паехала да бабулі ў вёску Малочкі. Вёска гэтая ляжыць сярод прыгожых краявідаў. Летам там вельмі многа каляровых палёў і зялёных лугоў. Вёска акружаная вялікім лесам, дзе многа грыбоў, чарніц і малін. Калі заходзіць сонца, уся прырода мяняецца рознымі колерамі вясёлкі. Тады там як у казцы.

На канікулах я пазнаёмілася з многімі сябрамі. Мы разам хадзілі ў лес за грыбамі, чыталі кніжкі, слухалі музыку і гулялі ў розныя ігры.

Аднойчы мы рашылі начаваць у палатках. На наступны дзень мы ўзялі спальныя мяшкі, ежу і пайшлі на луг, што недалёка вёскі. Вечарам мы распалілі вогнішча і пяклі каўбаскі. Мы вельмі доўга сядзелі пры вогнішчы. Хлопцы расказвалі розныя гісторыі пра „духі". Мы баяліся і смяяліся. Калі ўжо стаміліся, пайшлі спаць. Мая сяброўка забылася закрыць палатку. Раніцай я прачнулася, а каля мяне ляжаў малы сабачка. Ён мне вельмі спадабаўся. Ён быў худы і змучаны. Я накарміла яго і ён пачаў гуляць са мной і голасна брахаў. Усе ўсталі і выбеглі з палатак. Калі пабачылі сабачку, пачалі гуляць з ім. Калі мы вярнуліся ў вёску, не ведалі дзе пакінуць Шарыка, бо так мы назвалі сабачку. Напачатку ён застаўся ў мяне. Мая бабуля згадзілася, каб Шарык начаваў дома, каля майго ложка. Ён рос вельмі хутка і з кожным днём да нас прывыкаў. Шарык бегаў за намі ўсюды: і ў лес, і ў поле, цэлы час быў з намі. Мы таксама яго вельмі палюбілі. Калі я мусіла яго пакінуць, бо ехала дахаты, мне было вельмі сумна. Шарык таксама сумаваў.

Гэтыя канікулы былі вельмі цікавыя і вясёлыя. Яны доўга застануцца ў маёй памяці. А Шарыка я бачу кожную ноч у сне. Ён прынёс мне і маім сябрам многа радасці. Я чакаю, калі зноў пабачу майго сябра — Шарыка.

**Марылька**

# Сварлівая жонка

Такі вось комікс паводле аднайменнай казкі, якую друкавалі мы ў "Зорцы" ад 1 кастрычніка г.г., намаляваў Пятрусь Дэмянюк з Падрэчан, вучань VI класа Пачатковай школы ў Чыжах.



# Дашкольны куточак

**Дарагая „Зорка!"**

Я зноў дасылаю табе свой верш. Гэты верш я напісала для майго брацiка, якi 9 кастрычнiка скончыў тры годзiкi.

## Мой брацік

Я брацiка малога маю,
Ясё — так яго называю.
Я вельмi яго люблю,
пра яго вершы пiшу.
Ясё тры годзiкi мае,
вельмi прыгожа песнi спявае.
Ён любiць пiсаць, рысаваць,
i на трубцы прыгожа іграць.
Часам плача, лямантуе,
дзесь у хаце штось сапсуе.
Брацiка майго я кахаю,
i да сну яму спяваю.

Дасылаю таксама здымак майго брацiка Ясі i перадаю сардэчныя прывiтаннi рэдактару „Зоркi" Ганне Кандрацюк.

**Бася Ляўчук**

**Ад рэдакцыі:** Дзякую за прывiтаннi i вельмi прыгожы верш. Разам з табой жадаю твайму брацiку Ясю ўсяго найлепшага.



*Ясь Ляўчук з Крывой.*



*Занятkі ў польска-беларускім прадшколлі ў Беластоку.*

### ГЭЙ ДА ЛЮЛІ-ЛЮЛІ

Гэй да люлi-люлi ды каты два.
Гэй да люлi-люлюшанькі,
Ды шэрыя абадва.
Адзін каток валахаты
Спалохаўся ды ўцёк з хаты.
Гэй да люлi-люлюшанькі,
Спалохаўся ды ўцёк з хаты.
Пабег каток у лясочак,
Знайшоў сабе паясочак.
Гэй да люлi-люлюшанькі,
Знайшоў сабе паясочак.
Трэба ката пераняцi,
Паясочак адабрацi.
Гэй да люлi-люлюшанькi,
Паясочак адабрацi.
Паясочак адабрацi,
Мартынку падпе645разацi.
Гэй да люлi-люлюшанькi,
Мартынку падперазацi.
Пабег каток пад ігрушку
Ды знайшоў сабе падушку.
Гэй да люлi-люлюшанькi,
Ды знайшоў сабе падушку.
Трэба катка даганяцi,
Падушачку адабрацi.
Гэй да люлi-люлюшанькi,
Падушачку адабрацi.
Падушачку адабралi
Ды Мартынку паклалi,
Гэй да люлi-люлюшанькi,
Ды Мартынку паклалi.




## Польска-беларуская крыжаванка н-р 4

Запоўнiце клеткi беларускiмi словамi, а адказы дашлiце ў „Зорку". Калi на працягу тыдня дашлеце правiльныя адказы, „Зорка" разыграе ўзнагароды — пахучыя фламастэры.

| | | | |
|---|---|---|---|
| CHOMĄTO → ↓ | | BARAN → ↓ | |
| | | | |
| SOWA / MUR → | | | |
| | | ↑ | |
| RÓŻA | | WĄŻ | |

## Конкурс!

Назавiце тры найстарэйшыя гарады на Беласточчыне.

Калi вы дашлеце правiльныя адказы, возьмеце ўдзел у жараб'ёўцы гадзiннiкаў. Адказы дашлiце на працягу двух тыдняў.

**Рашэнне конкурсу з 41 н-ра**

Правiльны адказ: Словы песнi „Вось я iзноў у вёсцы Мора", якую спявае гурт „Белы сон", належаць **Вiктару Шведу.**

З лiку пяцiдзесяцi правiльных адказаў касету гурту „Белы Сон" выйгралi: **Аня Кiцаль** з Трывежы i **Ірэк Абрамюк** з Нарвы.

Вiншуем!










# Вершы Віктара Шведа

**Усходы аж да неба**

Ізноўку мора свежы подых
Наталля безупынку ловiць.
Ізноўку ўздыбленыя ўсходы
Угледзела яна ў Хлапове.

— Вось крыху, — азвалася Ната, —
Дадаць ступеняў гэтых трэба,
А ўзыдзем, даражэнькi тата,
Аж да самюсенькага неба.

**Ракетай навокал свету**

— Бывайце, мама, тата, —
Крычыць з ракеты Ната, —
Я гэтаю ракетай,
Лячу навокал свету!

Ну а калi вярнуся
Да таты i мамусi —
Вам раскажу прыгожа
Усё пра падарожжа.

З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

# Якіх славутых людзей дала свету Беларусь?

Беларуская зямля нарадзiла шэраг выдатных дзеячаў, якiя праславiлiся далёка за яе межамi. Гэта Казiмiр Семяновiч, вынаходнiк шматступеневай ракеты, i Якуб Наркевiч-Ёдка, адкрывальнiк электраграфii i бяздротавай перадачы электрычных сiгналаў; Ігнат Дамейка, народны герой Чылi, даследчык яе прыродных багаццяў, заснавальнiк унiверсiтэта ў Сант-Яга, i Герман Мiнкоўскi, выдатны нямецкi матэматык i фiзiк; Аляксандр Кавалеўскi, якi даказаў эвалюцыйнае адзiнства хрыбетных i бясхрыбтовых жывёлаў, блiскуча пацвердзiўшы гэтым тэорыю Ч. Дарвiна, i ягоны брат Уладзiмiр Кавалеўскi, заснавальнiк эвалюцыйнай палеанталогii; Бенядзiкт Дыбоўскi, якi ўпершыню апiсаў жывёльны свет Байкала, Амура, Камчаткi, i Ян Чэрскi, геолаг, даследчык Усходняй Сiбiры, iмем якога названая горная сiстэма („хрыбет Чэрскага"), Зыгмунт Мiнейка, нацыянальны герой Грэцыi, удзельнiк барацьбы супраць турэцкiх захопнiкаў, i Мiкалай Судзiлоўскi, прэзiдэнт сената Гавайскiх астравоў; Леў Арцiмовiч, выдатны вучоны ў галiне кiраванага тэрмаядзернага сiнтэзу, i Аляксандр Чыжэўскi, заснавальнiк гелiябiялогii; Аляксандр Малiноўскi, якi сваёй працай стварыў падмурак новай навукi — кiбернетыкi, i Оскар Мiлаш, французскi i лiтоўскi пiсьменнiк.

Са старадаўнiх беларускiх родаў паходзяць i такiя вядомыя ўсяму свету людзi, як матэматык Соф'я Кавалеўская (Корвiн-Крукоўская), падарожнiк Мiкалай Пржэвальскi (Перавальскi), паэт Гiём Апалiнэр (Кастравiцкi), кампазiтар Дзмiтры Шастаковiч, авiяканструктар Павел Сухi.

*(100 пытанняў i адказаў з гiсторыi Беларусi)*

# Бязлітасная праўда быцця

Чалавецтва спрадвеку найчасцей аддавала перавагу „святой ілжы", баючыся зазірнуць у вочы бязлітаснай праўдзе. Магчыма, прычына гэтага ў нейкім унутраным інстынкце самазахавання. Але немагчыма жыць без ісціны, якой бы непажаданай яна не была. І жыццё кожнага чалавека, яго хрысціянскай душы, ёсць усё ж нясенне крыжа пакут уласных, болю родных і Айчыны на спрадвечным шляху да Госпада праз шчасце, у ідэале гарманічнага саўдзелу ў існаванні і ўдасканаленні Сусвету.

Толькі мужны чалавек здольны жыць у згодзе з праўдай, адчуць першародны смак сапраўднага жыцця, жыцця бы на вастрыні нажа. У звычайным нашым побытавым уяўленні асаблівую павагу выклікаюць пакутнікі, бязвінныя цярплівцы, маўклівыя страстацерпцы, постаці ж легендарных герояў, смелых ваяроў здаюцца цяжка зразумелымі, амаль ірэальнымі. Бо цяжка зразумець, адкуль у звычайнага, здаецца, ва ўсім падобнага табе чалавека, раптам знойдуцца сілы ўзняцца над сваімі няўдачамі, стратамі, хваробамі і нястраеннямі, каб дапамагаць іншым, бараніць іх.

Відаць, сутнасць сапраўднага гераізму і мужнасці роднасная асноватворнаму закону Сусвету — вечнаму закону хрысціянскай любові (да бліжняга); чалавек вольны рабіць, што захоча, што пажадае, не паграшаючы.

Шчырая любоў да чалавека, імкненне зразумець душу яго праз процьму памылак, азлаблення і ўнутранай жорсткасці, зразумець — і... апраўдаць, бо кожны ў гэтым свеце мае хрысціянскае права разумення і даравання, — з'яўляецца вызначальным у творчасці Міры Лукшы. І глыбокагуманітарнае вырашэнне гэтай тэмы, як у Леаніда Галубовіча „чалавека памяну словам чалавечым", міжволі ставіць пісьменніцу поруч з глыбіннымі выказваннямі дум свайго народа, — з класікамі нацыянальных літаратур.

Сапраўды, апавяданні пісьменніцы вельмі роднасныя славутай натуралістычнай школе XIX—XX ст.ст., якая дала свету і творы славутай „Чалавечай камедыі" А. дэ Бальзака, „Вечары на хутары бліз Дзіканькі", „Старасвецкія памешчыкі", „Пецярбургскія аповесці" М. Гогаля, знакамітыя лясковскія цыклы, чэхаўскія празаічныя мініяцюры, маркесаўскія рэчы, асабліва „Сто год адзіноцтва".

Здаецца, незвычайная дабрыня, амаль чэхаўская, спагадлівасць і тактоўнасць голасу аўтара знайшлі свой плённы працяг на беларускай, беластоцкай глебе. І, цяжка сказаць, ці антычнай мудрасцю, ці чулай чэхаўскай дабрынёю прасякнуты такі праграмны для аўтаркі верш „Не кажыце Спарце...":

*Не кажыце Спарце*
*прахожыя,*
*не кажыце,*
*што я тут ляжу,*
*яе сын,*
*забіты на вайне.*
*І не выйграў я,*
*і не забілі*
*ворагі мае*
*мяне.*
*Не зберог сябе*
*я,*
*а ратаваць хацеў*
*усіх!*
*Не кідайце мне*
*ні слязы,*
*ні каменя,*
*ні слова.*
*Хай бы*
*і не было мяне*
*сярод барацьбітоў,*
*што нарадзіліся*

*для справы,*
*для слова,*
*для славы.*

Спрадвечная тэма любові да чалавека, шчырае імкненне дапамагчы яму, здаецца, у самай бязвыхаднай сітуацыі, роднаць героя М. Лукшы з св. Іаанам Багасловам, знакамітым апосталам хрысціянскай любові. Напрыклад, Федзік з аднайменнага апавядання (зб. „Дзікі птах верабей") напачатку здаецца ледзь не якімсьці тыпам „маленькага чалавека": „Школы ў горадзе не кончыў, плакаў па начах у інтэрнаце і падчас практыкі на фабрыцы, а пілавінкі са станка вінаваты былі ў тым, што яго вочы чырванелі. Федзікава сэрца трапятала, калі даходзіў пах мокрае мяты на далёкім ветры з-пад Нарвы, пах сухага торфу, сітніку і трысця на падрэчках. Хутка бег са станцыі, у бок, дзе ў цемнаце, пад гарызонтам, над якім удзень сінеў зубчаты бераг Белавежскай пушчы, глыбока пабрэхвалі сабакі. Пазнаваў голас сваіх, якія нудна адклікаліся ад суседскіх ці сумна падвывалі на полі, прывязаныя да слупка, пільнуючы жыта ці рэпу ад дзікоў" (с. 19).

Якая даверлівая шчырасць і адначасова мудрая сталасць пачуцця!.. І мы не ведаем, пра каго больш гэтыя радкі: пра прыроду ці пра ўзаемаадносіны людзей. Стварацца адчуванне, што час ад часу пісьменніца звяртаецца да прыроды, каб набрацца з яе адвечных крыніц чысціні і трапяткой чалавечнасці.

...І гэты імройны подых мясцовага, не рэальнага, а нейкі падсвядомы, бы ў трызненні, робіць постаць героя манументальнай, бо ў непрыманні здрады роднаму герой Міры Лукшы тоесны лірычнаму герою Уладзіміра Караткевіча са зб. „Матчына душа":

*Вы, што маці душу забылі,*
*Без яе пажадалі пражыць,*
*Што вы варты без гэтай магілы,*
*Без каліны на роднай мяжы?*

*Без дубоў, што ў тумане млеюць,*
*Без расы на роднай траве?*
*Павяртайцеся! Вецер мацнее!*
*Маці кліча, кветка заве!*

Так, відаць, феномен нашай нацыі ў тым, што калі чалавек усведамляе сябе беларусам, то ён не можа не быць патрыётам, чалавекам чулай, высакароднай душы, якім і праявіў сябе Федзік у каханні — сяброўстве да польскай дзяўчыны Ізы. А найкаштоўнейшыя здабыткі беларускага архетыпа, якія так ахвотна запазычвалі нашыя суседзі ў сярэднявеччы, — напэўна, гэты вартасці архетыпа і дапамагаюць зразумець сутнасць, глыбіню і духоўную веліч нашай нацыі, і, на жаль, амаль замоўчваюцца зараз.

Безумоўна, да ліку лепшых празаічных твораў пісьменніцы варта аднесці апавяданне „Жанчына з хвораю рукою" (зб. „Выспа"). У гэтым творы ўлюбёная аўтаркаю тэма любові да ўсяго жывога знаходзіць своеасаблівае развіццё ў таямніцы ўзаемаадносін чалавека з „братамі нашымі меншымі". У „Пасланні ап. Паўла да рымлянаў" гаворыцца: ... *усё стварэньне разам стогне і разам трудніцца ў болю аж дагэтуль, бо, рупліва выглядаючы, стварэнцы спадзяюцца аб'яўлення сыноў Божых* (Сьвятая Біблія. Перакл. Яна Станкевіча, Нью-Йорк, 1973, Рым. 8.22 і 19). Трагічная гісторыя смерці „вялікага жоўтага сабакі Арэшкі з гнойнымі чырвонымі вачыма" на хворых руках састарэлай жанчыны Адэлі ўражвае незвычайнай даверлівай еднасцю, якая усталёўваецца паміж чалавекам і жывёлай, як трапяткім, засяроджаным поглядам да нас, чытачоў, нібы яна, Арэшка, развітваючыся з намі на мяжы жыцця і смерці, хоча паведаміць нам нешта патаемнае і пра хуткую, наступную за ёю, смерць гаспадыні, і наш усеагульны боль — занядбанне бацькоўскай і дзедаўскай зямлі.

*(Заканчэнне будзе)*

**Алена Яскевіч**

НАШЫ КАРАНІ

## LXXXIV. Бастыён праваслаўя на Супраслі

На заходніх землях Старабеларускай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага) праўдзівай непарушнай крэпасцю праваслаўя ад пачатку свайго заснавання ў 1498 годзе быў Супрасльскі манастыр. У ім неслі свой манаскі подзвіг і актыўна дзейнічалі выдатныя рэлігійныя пісьменнікі, кампазітары, перапісчыкі кніг, іканапісцы, залатары, дойліды і іншыя таленавітыя майстры. У яго маёмасцях вялася ўзорная ва ўсіх галінах гаспадарка. Манаская брацiя, прыбываючы з розных краін або наведваючы іх, асабліва ўсходняе Міжземнамор'е, прыносіла адтуль рознабаковыя веды, вопыт, а таксама невядомыя ў нашым краі гатункі раслін, даючы прыклад і ўзор усяму рэгіёну. Славіліся супрасльскія манастырскія агароды, сады, сажалкі, вінаграднікі.

Супрасльскі манастыр за свой выдатны ўклад у развіццё праваслаўнай духовай культуры займеў ганаровае званне лаўры. Разам са славутай стаража́ытнай Кіева-Пячэрскай лаўрай, з якой Супрасльскую лаўру злучалі цесныя сувязі, яны былі цэнтральнымі асяродкамі праваслаўнага духовага жыцця на ўкраінскіх і беларускіх землях. Яны і сталі галоўнымі абаронцамі праваслаўя.

Асноўнай зброяй іх было слова моўленае і пісанае. Ужо ў 1511 годзе супрасльскія манахі на чале з ігуменам Калістам напісалі „Пасланне" ў адказ на ліст польскага рымска-каталіцкага прымаса, арцыбіскупа Яна Ласкага да заснавальніка Супрасльскага манастыра Аляксандра Хадкевіча. Я. Ласкі ў сваім лісце ганьбіў праваслаўе і намагаўся схіліць А. Хадкевіча да пераходу ва унію. У „Пасланні" супрасльская манаская брацiя на глыбокім багаслоўскім аналізе паказвала адыход рымска-каталіцкага Касцёла ад пастаноў сямі Сусветных сабораў, асуджала абагатваранне католікамі папы рымскага. У Супраслі паўстала ў 1581 г. „Пасланне да лацінян" і сказанне „На богомерзкую, но поганую латину, которыи папежи хто, что в них вымыслили в их поганой вере", напісанае пяццю гадамі пазней. Абодва гэтыя творы невядомых аўтараў накіраваны супраць кнігі езуіцкага дзеяча Пятра Скаргі „O jedności Kościoła Bożego pod jednym pasterzem", у якой ён высільваўся кампраметаваць праваслаўе, Царкву і духавенства і спрабаваў даказваць неабходнасць падпарадкавання праваслаўных каталіцкаму Касцёлу і папе рымскаму. Абодва творы з Супрасльскага манастыра вельмі вострыя і адначасова глыбока перакана́учыя. Супрасльскія абаронцы праваслаўя не засталіся абыякавымі і на націскі на праваслаўную веру з боку іншых канфесій. У Супраслі паўстала „Размова з яўрэем пра веру і іконы", а таксама „Спісанне супраць лютаран", гэтае апошняе напісаў свяшчэннаінак Яўстафій.

Шмат разнастайных твораў у абарону праваслаўнай веры трапіла ў Супрасльскі манастыр з іншых манастыроў, а нават адлеглых краін. Тут яны перакладаліся на старабеларускую або царкоўнаславянскую мовы і размнажаліся перапісчыкамі. Гэтак паўсталі „Пасланне венгерскага караля Янаша да манахаў святое Гары Афон" і „Адказ афонскіх манахаў на пасланне караля венгерскага". У „Адказе" дадзена падрабязнае апісанне адхіленняў каталіцызму ад прынятых сямю Сусветнымі саборамі канонаў хрысціянства. У Супрасль была прынесена з Афона і ў 1546 г. перакладзена і перапісана „Аповесць пра знішчэнне Гары Афон лацiннікамі ў 1276 годзе". У „Аповесці" асабліва перакана́уча паказваецца, да чаго фактычна імкнуўся ў сярэднявеччы каталіцкі Касцёл у адносінах да праваслаўя — ён ставіў сабе галоўным заданнем знішчэнне праваслаўных.

Названыя творы, напісаныя або перапісаныя ў Супрасльскай лаўры, — гэта ўсяго толькі частка ахвярнай дзейнасці ў абароне праваслаўя, якую няспынна і нястомна вяла яе брацiя. Пра подзвіг супрасльскіх манахаў ведаў увесь тадышні праваслаўны свет. Супрасльская лаўра свяціла ўзорам іншым манастырам, парасківдзіным ад Міжземнага на поўдні да Белага на поўначы мораў. Каб быць у свяшчэнных супрасльскіх мурах, каб уласнымі вачыма глянуць на супрасльскую брацію, што здзяйсняе незвычайныя подзвігі, прыбывалі сюды не толькі звычайныя манахі, але і выдатныя дзеячы праваслаўнай Царквы. Гэтак у 1582 г. наведаў Супрасль мітрапаліт сербскі і балгарскі Гаўрыіл і ў прызнанні ўбачанай ім самім самаахвярнай працы тадышняга архімандрыта лаўры Цімафея Злобы ўзнагароджвае яго мітрай. У 1589 г. у Супрасль прыбывае патрыярх канстанцінопальскі, Яго Святасць Іерэмія II. У захапленні ад творчай і арганізатарскай дзейнасці архімандрыта Цімафея патрыярх бярэ яго ў асабістую апеку як чалавека, які здзяйсняе вялікі подзвіг дзеля дабра праваслаўнай Царквы.

Супрасльскую лаўру часта наведвалі таксама свецкія высокапастаўленыя ў тагачасным грамадстве, а нават каранаваныя, асобы. Вось што запісаў у летапісе невядомы па імю аўтар: „ В лето от начала миру 7052-е, индиктиона 2. Септемврия месяца 16, в неделю, на память великомученицы Евфимии всехволное (29 верасня 1544 г. — М.Г.), Жикгимунт Август, корол полскыи, великии князь литовскыи и иных панств господарь и дедич, короля Жикгимунтов сын и Казимира Якгайловича внук, бысть в дому Богородици обители Супрясльское с многыми велможами своими, церковнаго ради и местнаго видения и молебнаго пения, в святои пресветлои церкви Богородици от начала даже и до конца слушав, и внутр святилища сиреч олтаря быв, и на святои трапезе, святых евангелии и честных крестов и всех сосудов священных оглядев, и по монастырю походив, и в трапезнице быв, и милостину вбогым дав. И абие паки во своя со вмилением и кротостию Богородицу благодаръствуя, со всеми яже о нем, возвратися". Гэты запіс красамоўна сведчыць пра ранг Супрасльскай лаўры ў тагачасным грамадстве.

У такім, найвышэйшым росквіце сваёй дзейнасці, знаходзілася Супрасльская лаўра напярэдадні цяжкіх выпрабаванняў, якія, быццам усё разбураючая навальніца, насоўваліся на праваслаўную Царкву пад выглядам уніі. Як паводзіла сябе наша святыня на рацэ Супраслі ў той фатальны час — пойдзе гаворка наступным разам.

**Мікола Гайдук**

*Ада Чачуга*

# Там, дзе жыў Дзядзька Квас



*Хутар Малынка. Тут жыў Дзядзька Квас.*

Здаецца, усё я бачыла, як на далоні: і хату Дзядзькі Кваса, і яго панадворак, і сад, і лес. А вось, дабраўшыся да Малынкі, зусім забылася, што трэба яшчэ ехаць далей, на хутар, і механічна спыніла машыну каля першай хаты злева.

Глянула: хата быццам падобная, але плот зусім разваліўся. „Не, Тамарка б да гэтага не дапусціла", — падумала я і рушыла далей.

Напатканая пры трэцяй хаце баба чысценька па-беларуску растлумачыла мне, як даехаць да хутара, дзе жылі Красоўскія, але цяпер ужо іх няма, сказала, а жыве там іхняя Тамарка, што за Лук'янюком.

Усё гэта я і сама добра ведала. Хаця не была я там ужо многа гадоў, то ўсё ж часамі наведваў рэдакцыю Мікалай Лук'янюк, наш колішні карэспандэнт і Тамарчын свёкар, і ў яго я заўсёды скваплівa распытвала пра тое, што дзеецца на сялібе Дзядзькі Кваса.

А цяпер вось, калі Міхася Красоўскага ўжо дзесяць гадоў няма сярод жывых, вырашыла сама падацца ў Малынку. Першы раз пасля яго смерці.

* * *

Рэдка здараецца сустрэць у жыцці такі самародак, якім быў Дзядзька Квас. Селянін з чатырма класамі „царскай" школы, у якой навучыўся ён ледзь чытаць і пісаць, умеў пранікліва бачыць жыццё, выснoўваць з яго найбольш істотнае, важнае, наогул падыходзіў да яго па-філасофску, не грэбуючы пры гэтым чыстым, народным гумарам.

Ну, а паколькі ўмеў чытаць, дык чытаў пра свет і пра бліжэйшыя аколіцы. Усё, што трапіла ў рукі ці апынулася ў яго хатняй бібліятэцы. Са сваімі гістарычнымі ведамі мог ён спакойна дыскутаваць з прафесарам. Калі ж дадаць пры гэтым яго інтуіцыю, станавілася ясна, што чалавек гэты — незвыклы.

Пісаць таксама ўмеў, дык лічыў, што грэхам было б не пісаць у „Ніву". Амаль ад пачатку існавання супрацоўнічаў са „сваёй" газетай. Пісаў сатырычныя вершы і апавяданні, проста нейкія інфармацыі ці крытычныя артыкулы пра нашых паэтаў, даваў рэфлексіі на гістарычныя тэмы — пад літаратурным псеўданімам Дзядзька Квас. Пэўна таму, што людзям, якіх высмейваў, станавілася ад гэтага кісла.

Ніхто так трапна не ацаніў творчасць Міхася Красоўскага, як тагачасны рэдактар „Нівы" Г. Валкавыцкі. Любаваўся яго пісаннем, пяшчотна апрацоўваў тэксты, нікому не давяраючы іх, пэўна, каб не сапсавалі. Заўсёды ўмеў знайсці ў Дзядзькі Кваса арыгінальную думку, вылушчыць з яго творчасці ўсе разынкі і, апраўляючы іх у літаратурныя рамкі, даваў у друк.

Дзядзька Квас быў вельмі плённым аўтарам. Мог пісаць і пісаць. Здаецца, ніхто іншы, як Валкавыцкі, намовіў яго, каб пачаў пісаць успаміны. Памятаю, як рэгулярна з'яўляўся ў рэдакцыі „кур'ер" ад Дзядзькі Кваса — яго старая, як і ён, жонка Надзя з важкім скруткам у руках. Часамі нават не заходзіла ў кабінет рэдактара, а, руплівa сунуўшы некаму з нас яшчэ на парозе сакратарыята старанна запакаваны скрутак, бегла далей нешта купляць ці афармляць. Мо нават не ўсведамляла таго, якой крыніцай народнай мудрасці была творчасць яе старога.

* * *

Тамару, наймалодшую дачку Красоўскіх, застала я на панадворку. І яна адразу пазнала мяне ды пайшла мне насустрач. Наймалодшым часцей за ўсё дастаецца бацькоўская сяліба — з усімі яе традыцыямі, з будынкамі, дабыткам і... клопатамі.



*Наймалодшая дачка Красоўскіх Тамара з сынкам Міхаськам.*

У Дзядзькі Кваса было дзесяцёра дзяцей. Чацвёра памерла малымі, Тамарка іх не ведала. Засталося шасцёра: два сыны і чатыры дачушкі. Як бы мала было няшчасця на лёс аднае сям'і, валіліся ім на галаву наступныя беды. Спачатку трагічна загінулі два сыны: адзін на ўласным панадворку — пілуючы дрэва на крайзээе; палена адскочыла, дало па галаве — і ўжо было па хлопцу; другі працаваў на Шлёнску, і там жа зрабілі яму аперацыю, калі захварэў апендыцытам; не вытрымаў хлапец: уначы ўстаў і напіўся вады, усё палопалася і ўжо яго не адратавалі. А неўзабаве здарылася трагедыя і ў дачкі Любы, якая закончыла Сафійскую мастацкую акадэмію і ў Балгарыі выйшла замуж. Новым самаходам ехалі да бацькоў — Дзядзька Квас ужо дзеля іх і дарогу вымасціў, — шчаслівыя прыехалі ў Польшчу і тут — ці доўга трэба? — нехта некага абгняў, нешта скрыгатнула, стукнула, грукнула — і ўжо не было каму ехаць да Дзядзькі Кваса, бо непрытомную Любу завезлі ў бальніцу, а мужа яе — адразу ў морг. Дзякуй Богу, што сын іхні быў тады ў войску і не паехаў з бацькамі.

І засталіся яны, чатыры дачкі: адна — у Беластоку, другая — у Сувалках, трэцяя вярнулася ў Сафію, ну, і яна, Тамарка, на бацькоўскай гаспадарцы.

Бацькі пакінулі ёй даволі ладную гаспадарку — шаснаццаць гектараў, вялікі сад, хату і гаспадарчыя будынкі ў добрым стане. Праўда, сёлета ўсе дахі перакрылі, кажа Тамара, але ад таго ж яны і гаспадары.

Коля Лук'янюк, сын нашага карэспандэнта з Белак, прыйшоў на чацвёра Тамарчыных дзяцей (я ведаю) з кахання. Прыгожая Тамарка, што ні кажы! Жыў тады яшчэ Дзядзька Квас, і ён гэту справу адобрыў. Дачакаліся і сыночка Міхаські, якога так ахрысцілі па дзеду Красоўскім. Сёлета хлапчук пайшоў у першы клас.

Дзве дачкі ўжо на сваім. Дваццаціпяцігадовая Івона выйшла пасля тэхнікума (па шыццю вопраткі) замуж, і ўжо нават зрабіла саракачатырохгадовую Тамару бабуляй. Жыве ў вёсцы Цеснай, што каля Беластока. Пакуль што гадуе дзіця. Малодшая на два гады Мар'ёля жыве ў Беластоку і працуе на кіраўнічай пасадзе ў нейкай фірме. Шкада, што не робіць па прафесіі, перажывае Тамара, але зарабляе то добра. Мар'ёля закончыла тэхнікум па будове дарог і мастоў.

Дома, на хутары ў Малынцы, засталіся адны хлопцы і Тамара. Найстарэйшага, Мікалая, сёння няма, смяецца гаспадыня. Раніцай управіўся з дабыткам, а цяпер будуе дом у Катлах. Чую, як стукае, дадае яна, а я не дзіўлюся, бо хутар іхні якраз пасярэдзіне — між Малынкай і Катламі.

Семнаццацігадовы Ігар вучыцца ў самахадовай школе ў Міхалове. Любіць гэта, гаворыць з гонарам мама. Самаходы ладзіць, усё сам разбярэ, калупаецца ў машынах увесь час. Ігар не хоча быць у інтэрнаце. Нецікава яму там: усё глядзі ды глядзі тэлевізар. Штодзень вяртаецца дахаты. Даязджае з Міхалова да Подварак і пяць кіламетраў ідзе пяшком.

Яшчэ ёсць чатырнаццацігадовы Сільвестр, які канчае восьмы клас у Заблудаве, ну, і першакласнік Міхаська.

Аж злосць бярэ, кажа з усмешкай шчаслівая мама. Каб хоць адна дзяўчына ў хаце засталася, то было б каму прыбраць. А так адны хлопцы...

У хаце чысценька і прыбрана, як на прыход гасцей, — непатрэбна Тамара тлумачыцца. Вось ванную ў каморы робім, а ўсё не можам скончыць, уздыхае яна. Цяжка сёння. Але што ж, усім цяжка, дадае, а я думаю, што ўсё ж цяжкасць гэта адносная, бо на двары стаіць трактар, ёсць і малы „Фіат".

Калі ж яна і ўпраўляецца?! Дзеці, абед, поле, хлявы, сад... Кароў маем шэсць, кажа, а бычкоў то многа, каб іх палічыць, усе... Ёсць старэйшыя і малодшыя. Ёсць свінні, качкі, усё, што і было. Малако здаем.

А ў полі? Засталося толькі заараць поле на зіму. Жыта пасеяна, бульба выкапана. Цяпер толькі чакаць зімы. Ага, яшчэ і сад абвязаць. Татка загадаў мне гэта рабіць. Ён пакінуў не толькі стары сад, але і малады. Пасадзіў перад самай смерцю. Трэба хадзіць каля яго, але я так не ўмею, як татка: то апырскваў, то падразаў. А Коля таксама не вельмі, ён за той час лепш хату паставіць. Зрэшты, бацька яму перапісаў яшчэ восем гектараў з Белак. Якраз была свабодная зямля

*Працяг на стар. 10*

<u>20-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы</u>

# Прытча пра сейбіта

*(Лук., 8:5-15)*

У гэтую нядзелю чытаецца ўрывак з восьмага раздзела Евангелля паводле Лукі. У ім прыводзіцца прытча пра сейбіта і пасеяныя зярняты, якія, упаўшы на неаднолькавы грунт, прынеслі неаднолькавы плён. У прытчы адразу паясняецца, што зерне азначае Слова Божае, а ралля — чалавечае сэрца, якое па-рознаму ўспрымае пачутае Слова. Галоўная думка ў прытчы такая, каб чалавек, пачуўшы слова, „захоўваў яго ў добрым і чыстым сэрцы і прыносіў плён у цярплівасці" (Лук., 8:15), інакш кажучы, каб належным чынам усвядоміў ягоную каштоўнасць і жыў паводле яго.

Слова Божае спачатку перадавалася вусна, а потым запісвалася ў кнігах званых Бібліяй. На працягу шаснаццаці стагоддзяў, сорак натхнёных людзей сфармулявалі тое, што Бог хацеў пераказаць людзям усіх часоў. Напісаныя рознымі аўтарамі, рознымі мовамі і ў розныя эпохі кнігі перадавалі адзін і той жа змест, адну вядучую думку. Біблія — гэта не гісторыя суадносін паміж Богам і людзьмі, але універсальнае Слова, якое Бог гаворыць нам сёння. Еўрапейская цывілізацыя з ейнай культурай, законамі і мараллю непасрэдна заснавана на Бібліі. Няма ніводнага прынцыпу, які не меў бы свайго пачатку, а часам і цудоўнай фармулёўкі ў Святым Пісанні. Мараль грамадскіх, палавых, гандлёвых і іншых дачыненняў мае сваю крыніцу ў Бібліі. Грамадства, якое адкідае біблейскія прынцыпы, асуджана на непазбежную гібель. Аб гэтым пераканаліся самыя магутныя імперыі.

Шматлікія сюжэты, паняцці і вобразы на працягу стагоддзяў натхнялі сусветнае мастацтва, літаратуру і філасофію, аднак гэта толькі ўскосная роля Бібліі. Яна была напісана, каб адкрыць чалавеку Божы план збаўлення, каб людзям вядомымі сталі непахісныя Божыя законы, каб людзі маглі кіравацца вялікай Божай мудрасцю і каб Божая любоў была чалавеку ўцяшэннем на ягоным жыццёвым шляху. „Усё Пісанне натхнёнае Богам, — пісаў апостал Павел свайму вучню, — і карыснае дзеля навукі, дакору, папраўлення, дзеля ўзгадавання ў праведнасці" (Цім., 3:16).

Мы жывем у час чарговай пераацэнкі каштоўнасцей. Само жыццё выявіла і адкінула фальшывыя ідэі і аўтарытэты. Не здзейсніліся шматлікія абяцанні, скампраметаваліся нядаўнія ідалы і іхныя ідэалы. Калі разгубленыя разглядаемся вакол у пошуках непарушных ісцін, мы зноў звяртаемся да Кнігі, пра змест якой сказана: „Неба і зямля праміnуць, але словы мае не праміnуць" (Матф., 24:35). Яна стагоддзямі была бальзамам на раны чалавека, апорай і галоўным аўтарытэтам. Яна і зараз адказвае на ўсе нашыя духоўныя запатрабаванні, як быццам з думкай пра нас была напісана ўчора. „Як нізкія, як нікчэмныя словы нашых філосафаў з усімі іхнімі супярэчнасцямі ў параўнанні са Святым Пісаннем", — пісаў Жан Жак Русо. „Трымайцеся моцна Бібліі, — сказаў былы прэзідэнт ЗША Грант, — як якара вашых свабод. Напішыце ейныя запаветы ў вашых сэрцах і захоўвайце іх у жыцці. Мы заўдзячваем увесь прагрэс сапраўднай цывілізацыі гэтай кнізе, і мы павінны лічыць яе нашым праваднікам і ў будучыні". — „Калі кожны чалавек у Злучаных Штатах, — пісаў іншы прэзідэнт, Вільсан, — будзе кожны дзень чытаць па адным раздзеле з Бібліі, дык знікне большасць нашых нацыянальных праблемаў". Ні варварскі вандалізм, ні цывілізаваная вучонасць не закранулі яе. Ні агонь, ні блюзнерствы хеўраў бязбожнікаў не здолелі яе знішчыць. Вальтэр у свой час гаварыў, што праз сто гадоў Біблія будзе ўстарэлай і забытай кнігай, якую можна будзе знайсці толькі ў музеях. Аднак пасля ста гадоў напаўзабытыя сталі якраз ягоныя кнігі, а яго ўласны дом пераняло Біблейскае таварыства.

Праўда Святога Пісання пераарала свет і ператварыла ў Божую раллю. Яна абсеяла гэтую раллю зярнятамі збаўлення і сапраўднай, духоўнай культуры. Слова Божае надалей накіроўваецца да нас, а мы, каб пачэрпнуць карысць ад яго, павінны перш за ўсё пазнаць яго, а потым у працы, у прастаце і з верай прыняць Яго.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Надзя з Пядзі

У Надзі Іванюк з хутара „На Пядзі” тэлефон паставілі яшчэ ў сямідзесятых гадах, адразу ж тады, як праз падмоклыя лугі, парослыя алешнікам, пакрочылі электрычныя слупы. Цягнулі драты да аднае адлеглае хаты тры кіламетры. Надзя жыла тады ўжо адна, і ўсе бабы ў Н. паўтаралі, што танней будзе пакінуць ёй, нестарой удавіцы, тую Пядзю, распрадаць усё і перасяліцца ў вёску, пайсці нават і за кавалера (ад іх тады ўжо кішэла па вёсках, беспрытульных нежанацікаў) або за нянечку падацца ў Нарву, Гайнаўку ці нават у сам Беласток, чым абрабляць тыя чатыры гектары, цягнуць „кулковыя” машыны на адлеглыя палеткі і луг. Надзіна поле давала някепскі плён, на былой „тарпе” ляжала, але ж траха макравата на ім нават у сухі год, а пры дажджах прыгожую, булаватую бульбу ледзь можна было выдзерці з чорна-чырвонай зямлі, перавітай рудым карэннем. Пакуль даедуць машыны, Надзя са сваім конікам тупала па сваім маёнтку ад зары да зары. Уся счарнелая ад сонца і ветру, забягала Надзя ў краму, працуючую гадзіну ў дзень (нават у свята, калі трэба, Мікола Бязносік адчыняў кожнаму, бо *склеп* размяшчаўся ў яго-най хаце), купляла кіло цукру, муку, лаўровы лісток, зрэдку пляшку, каб было чым плаціць за дапамогу.

Цяжка было ўгадаць, колькі Надзі год будзе. Як памёр на сэрца яе Івашка, не было ёй і дваццаць сем, і ад таго часу амаль не змянілася ні яе фігура, што дзяцей ніколі не насіла, і сухі ды як бронзавы твар з дробнай сетачкай светлых маршчынак пад вачыма, ні сіваватыя валасы гладка зачэсаныя, схаваныя пад хустачкай. Трошачкі толькі яна ссутулілася, нахілілася ёй спіна, злёгку направа, быццам усё нешта цяжкае Надзя несла ў руцэ.

Надзя шчыравала ў полі на ўзор старым і малым. А што з таго мела? У царкву прыходзіла ў сваёй сіненькай сукенцы проста пашытай, з белым крухмаленым каўнерыкам, узімку сціпла станавілася пад сцяною, хукала ў чорны каціны каўнер палітэчка, зрэдку пасля службы заходзіла да жанчын у вёску, з ціхім жалем пагля-даючы, як хутка растуць чужыя дзеці. Дома ў Надзі не было нікога з людзей, а чалавеча слова чула з тэлевізара. Дзядзька Костусь Астапчык, „кулковы” трактарыст, якому найчасцей даводзілася ездзіць на Пядзю рабіць, казаў, што Надзя надта ж любіць амерыканскія фільмы пра каханне і *багатыроў*.

Не мусела Надзя жыць адна. Паяўляліся час-часом на Пядзі сваты, спачатку з'язджаліся на фурах, са святочнай дзяружкай на гнаянках — чырвоныя ад уцехі дзядзькі з зялёнымі пляшкамі ў кішэнях. Пасля сваты ехалі ў „Сірэнках”, „Ладах”, „Трабантах”, з няп'ючым гаспадаром-суседам і крыху спалоханым залётнікам пад гальштукам, апырсканым *дзікалонам*. Спачатку аднеквалася Надзя, марыла аб больш рамантычных сустрэчах, але пачала пасля і ў агляды ездзіць, і ўсё больш маркотная хадзіла...

Аж Надзя знікла з Пядзі і вёскі Н. Ніхто быццам і не бачыў, як з хутара выязджала. Коніка і кароў збывала паціху, парэзала ды паела курэй, падсвінкаў на базу павазіў ёй Костусь. Бурка, хоць выязджаючы адвязала яго ад будкі, пільнаваўся гаспадаркі, ноччу бегаў па балоце і лесе, карміўся тым, што ўпаляваў. Пільнаваў хату да замаразкаў, бегаў што і раз на палявую дарогу, па якой гаспадыня раней вярталася з Н., хадзіў два разы ў дзень на прыпынак аўтобуса, чакаў, углядаўся ў вочы прыезжых, ці не ведаюць што пра яго гаспадыню... Аж у адну снежаньскую нядзелю, калі змрок хутка апусціўся на астылую зямлю, у сваіх сенцах убачыла яго цётка Гандзя Максімава, вяртаючыся з адведак. Ляжаў Бурка на анучы пад парогам, цяжка соп, уцягваючы паветра гарачым носам і стагнаў.

— Ну, што, захварэў? — запытала яго баба. — А ідзі ты, здыхляціна, з хаты!

Адсунула сабаку нагой пад дзверы, а пасля пашкадавала, вынесла скарынку хлеба і адчыніла яму дзверы на двор.

Бурка пайшоў у шопку, выпусціўшы той пачастунак з балючай пысы. Лёг на пілавінне. Да раніцы акалеў.

На Пядзю нікому не было па дарозе. Ды і чаго там было каму шукаць! Заглянулі былі туды раз Яська Б. з Жэнікам Ц., думалі, можа якое дабро пакінула Іванючка. Адкруцілі кручок, на які зачынены былі дзверы, паварочалі ўсё ў хаце, але не было чаго браць. Не варта было чапаць нават старой „Тэслі”, што пылілася пад макаткай, з вялікімі рэгулятарамі і малюсенькім шэрым экранам. У хаце было ўсё так, як пакінула гэта Надзя — забрала з сабою што лепшае з вопраткі ды пасцель. Хлопцы селі, закурылі, затапталі недакуркі ў чыстую падлогу, засыпаную мышынымі бобешкамі, пажавалі сушаных слівак, што віселі ў мяшочку ля пліты. Яська прыхапіў з сабою дзве торбачкі сушаных шапачак баравікоў ды вырваў тэлефонны апарат, каб не здавалася, што дарам хадзілі на Пядзю.

Толькі раз прыехала Надзя наведаць аколіцу. У чырвоным вялікім „Фіаце” прыехала, з тоўстым дзедам у малінавым касцюме ў два гузікі, з высокай дзеўкай у джынсах і скураным заплечнікам ды лысаватым дзядзькам з чорнай дыпламаткай. У *склепе* купілі бутэльку гарэлкі, каўбасу, чорны хлеб ды памідоры. Мусібыць, той тоўсты дзед узяў Надзю за жонку, надта ж добра да яе адносіўся, проста ў рот ёй глядзеў, казаў пасля *склеповы*. Надзя ў вішнёвым ваўняным касюме, у такога ж колеру пантофлях на корачку, з сівенькім, нізка зачэсаным гуглікам пад капелюшом, з торбачкай на далонь — Мікола казаў, што выглядала як з нейкай „Дынастыі”. А дзеўка, клікалі яе Аська, дачка таго ж дзеда, студэнтка, Надзю называла „мэмі”. Сапраўды, хацеў той лысы малы пузач купіць зямлю, тую ж Пядзю, каб яе падзяліць на ўчасткі, распрадаць яе пасля гарадскому люду, каб той сабе дачы ставіў.

— Decyduj sam, Antoni, o tym kawałku. On mi wyżarł zdrowie, nie mogę już na niego patrzeć! — зморшчыла Надзя свой худы тварык, пацягнула са шклянкі аранжавай „Фанты”.

Мікола каторы ўжо раз выціраў анучкай прылавак, пазіраў на згаданага Антона — той быў у выдатным настроі, з размахам ляпнуў пакупніку ў далонь.

— Zrobione! Давай, дзядзька, другую пляшку, будзем піць барыш! — і ўсміхнуўся роўнымі снежна-белымі зубамі да Міколы.

Надзя толькі памачыла губы ў кілішку, выцерла хустачкай рот і выйшла на падворак. А ў краме, за сталом накрытым цыратай у блакітныя кветачкі, прадавалі яе зямлю.

**Міра Лукша**

# Радзіма — Родзіна

## Частка XXX

У разважаннях аб радзіме бацька даволі часта адносіўся да рэлігійных пытанняў. Лічыў ён, у адрозненне ад палякаў і рускіх, што беларусы не маюць нацыянальнай рэлігіі і што гэта ў значнай ступені прычынілася да ўпадку беларускай нацыянальнай свядомасці:

„Што касаецца рэлігіі, то я табе хачу зрабіці аднэ замечане. Ты ўжэ пару разоў сказаў мне, што слова *поп* і *папы* то мают абразлівы характар і што трэбо гаварыці па-другому. То я табе скажу, што ў нас ад вякоў так гаварылі, хоць ніхто нікого ні хацеў абражаці. Так гаварылі нашы дзяды і бацькі, і так гаворым мы.

А от зусім другое дзело касаецца таго, чы Цэрква добрэ служыт нашуй родзіне. Я то думаю, што служыт слабо, але ты паслухай яшчэ аб чым другім. Хачу сказаці, што тут, у такіх вёсках як Бандары, Рыбакі, Багнюкі ці Таніца то жывут разумны людзі. Ты знаеш, што я жыву ўжэ больш як восемдзесят лет, але ніколі ні чуў, каб нашы людзі сварылісе за рэлігію. У нас такі парадак: хочэш вер, хочэш ні вер. От нават Яначко, каторы папоў ні пускаў у хату, ніколі ні лаяў людзей за тое, што яны верат або ходзят у царкву. Мясцовы людзі рассуждалі па-рознаму: а то ест Бог, а то німа Бога, але ніхто нікому да горла ні скакаў. Я думаю, што так павінно быці ўсюды на свеці. Але так ні было. Я бачыў як у часе акцябрскае рэвалюцыі праследавалі папоў. Гэто было вельмі дурное. А после то саветы зрывалі з цэркваў крыжы і рабілі ў цэрквах склады або клюбы. А от тут некаторы хлопцы ў нас после вайны служылі ў польскім войску і ваявалі з украінцамі ў Бяшчадах. То гаварылі, што ў гэтых Бяшчадах то ўжэ тады, як вывезлі украінцаў, то ў цэрквах парабілі хлявы для авечак. То бачыш ты да чаго гэто даходзіт, калі ні шануют свае веры або няверы. Ну, у нас то такого чагось ні было. У нас чы веруючы, чы ніверуючы, то кажды быў адзінакавы. От я, напрымер, як дарос, то ніколі ні маліўсе, ні ругаўсе, ні піў, і ні курыў. От можэ за цэлэ свае жыце выпіў пару бутэлькоў водкі, але ні больш. А ты думаеш, што нікаторы моцно веруючы то ні ругаюцца і ні п'ют? От, у Ялоўцы — а там каліся была наша парафія — после польска-савецкае вайны, быў поп, каторы страшно піў і ругаўсе. Ну то раз ідзе ён п'яны і ругаецца, а адна баба ідзе за ім і кажэ: „Бацюшка, бацюшка, чаму вы так ругаецеся?” А ён ёй знаеш, што адказаў? „Какой я тебе батюшка, я козацкий офицер!” Па-рознаму гэто было і ў нас тут таксамо. Але трэбо сказаці, што многі папы былі вельмі парадачны людзі. Можно было з імі гаварыці аб усім і нават аб тым, што Бога німа. А было і дурач'ё. Ну ведомо, так як і ўсе іншы людзі. З адным чалавеком гаворыш і так як бы чагось новаго учышсе, а з другім гаворыш і бачыш, што ні толькі ні вучышсе, але і траціш, як бы дурнееш.

Ну, а што касаецца нашае рэлігіі і нашае родзіны, то я табе скажу так: ты паслухай як тут гаворат людзі аб рэлігіі. А гаворат: польска рэлігія і руска рэлігія. Польска, значыцца, каталіцка, а руска, значыцца, праваслаўна. Ну, а чаму так гаворат, хоць і вядомо, што гэто ніправільно. А таму, што ад вякоў ксяндзы даўбілі ў голавы каталікам, што яны палякі, а папы даўбілі ў голавы праваслаўным, што яны рускі. Я ніколі ні спаткаў ні такого ксяндза, ні такого папа, каторы гаварыў бы, што мясцовы людзі беларусы. От таму і ніхто табе ні скажэ аб беларускай рэлігіі, але аб рускай і польскай будзе гаварыці. От бачыш як яно ест. Я то много добраго чуў пра папа з Гарадка, здаецца ён называўсе Дарашкевіч. Хвалілі яго людзі моцно. Царкву ўласнымі рукамі будаваў, людзей ні грабіў. Жыў бядней, чым сярэдні мужык. Усё для рэлігіі, а для сябе нічого. От гэто быў напраўду божы чалавек. Ён, здаецца дастаў вяліке павышэне па службе. От вы з ім і гаварэце, ніхай ён зробіт беларуску рэлігію ў Польшчы. От, калі б людзі нашы пачалі гаварыці ні аб польскай чы рускай рэлігіі, але аб беларускай, то тады было б другое дзело. Каб папы загаварылі па-беларуску і каб іх дзеці гаварылі па-беларуску, то іншы людзі дзяржаліся б сваго языка і беларускае сазнацельнасці дзяржаліся б. Тады то выглядало б дзело па-другому. Я то думаю так: паколь папы і учыцеля ні будут усюды на каждом шагу карыстацца беларускім языком і ні загаворат, што гэта цэла беларускасць найважнейша, то гэта наша родзіна будзе ні такая як трэбо, от такая сабе будзе кульгавенька, прыкалечана і больш нічого”.

**Алесь Барскі**

# Там, дзе жыў Дзядзька Квас

*Працяг са стар. 9*

каля нас, дык мы яе ўзялі. Шкада, што сёлета няма яблыкаў. Але ў будучым годзе напэўна будуць, прыязджай!

Пачынаюць сыходзіцца дзеці. Першы паявіўся Міхасёк з вялікім ранцам на плячах. Яго і Сільвестра давозіць школьны аўтобус. Ужо прыйшоў і Ігар ды пабег у свой пакой на горку. А вось і Сільвестр.

У Пяценку да дзеда на могілкі паедзеш ты і ты, кажа Тамара малодшым. Дзеці пераапранаюцца са школы, схапіўшы нешта ў рот. Мама з-за мяне яшчэ не наварыла абеду. А я стаю на вуліцы і спаглядаю на лавачку каля плота, тую самую, на якой, здаецца, так нядаўна Дзядзька Квас гутарыў з маім мужам пра лёсы Беларусі, на тыя ж дрэвы каля хаты, у цяні якіх любіў ён пасядзець пасля працы, на цудоўнае, непаўторнае, яго наваколле.

І робіцца мне да немагчымага сумна, што няма на лавачцы Дзядзькі Кваса з яго хітрай усмешкай, што не пячэ ў печы яблычны пірог бабуля Надзя і не прыехала да іх у госці, як калісьці, цэлая наша рэдакцыя.

Усё тут такое самае і не такое. Тамара з дзецьмі гаворыць ужо па-польску. Я разумею яе. Старэйшы, Ігар, кажа яна, як пайшоў у школу, дык паўгода маўчаў, не адзываўся да настаўніцы. Урэшце яна паклікала мяне ў школу і запыталася, чаму так дзеецца. Дык я гавару, што і я яму казала, каб не адзываўся, бо дзеці будуць смяяцца, што гаворыць па-просту.

Калі б жыў Дзядзька Квас, яго б унукі па-беларуску гаварылі...

Праўда, „Ніву” тут чытаюць, як заўсёды, а найбольш гаспадар, ды толькі, кажа Тамара, купляем яе, бо цяпер з гэтым лістаношам...

Ну, і платы не разваліліся. Гаспада-



*Тут у Пяценцы пакоіцца Дзядзька Квас са сваёй жонкай Надзяй.*

ры дбаюць пра гэта. Як памру, казаў татка, дык будзеш пра мяне памятаць, пакуль платы будуць стаяць. Яшчэ стаяць! — цешыцца Тамара.

Цешыцца таксама, што „Ніва” выдала бацькаву кніжку „Роздумы на калёсах”. Мне далі, кажа, шэсць экземпляраў, дык толькі адзін цяпер маю. Усе параздавала. Кожны хоча.

Я прашу напіцца вады. Не, кавы не хачу. Хачу вады. Тамара хапае вядро і бяжыць да студні. Я нічога не разумею: ёсць жа ў кране. Ёсць, а як жа, і ў кране, але няма вады, як са сваёй студні. І не смярдзіць трубамі, кажа яна.

* * *

На могілках у Пяценцы ні душы. Ад Малынкі па шашы — шаснаццаць кіламетраў. Напрашчкі, па калдобінах, бліжэй, толькі пяць кіламетраў, і сюдою, бадай, ездзяць дзеці паліваць кветкі на магіле дзеда і бабы, якая перажыла дзеда няцэлых тры гады. Кветкі буйныя яшчэ і свежыя.

Тамарка ўмомант ачышчае магілу бацькоў ад іголак, што сыплюцца з сасны, ставіць у слоік прынесеныя кветкі. У хаце, гаворыць яна, любіў ён сядзець пад дрэвам, і тут ляжыць таксама пад дрэвамі...

* * *

Калі ад'язджаю з Малынкі, над лугам стаіць імгла. Стоячы ля хаты, бачу малочную паласу туману, чорныя зубцы соснаў над ёю, а між імі чырвань заходзячага сонца. Немагчыма ўявіць сабе такое хараство, не бачыўшы яго. Перастаю дзівіцца, што ў гэтай хаце радзіліся мастакі і паэты.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# З народных песень

Вырашыў я напісаць яшчэ аб каляднай традыцыі, якая калісьці адзначалася ў Беларусі. У тым раёне, дзе я калісьці жыў, вядомы быў абрад „Жаніцьба Цярэшкі". У перыяд калядных святкаванняў, пасля 25 снежня, апранутая па-святочнаму моладзь збіралася па хатах на вечарыну і ладзіла танцы. У час сталінскага ліхалецця, калі з кожнай з трыццаці сем'яў у вёсцы нехта быў сасланы ў Сібір або ў Казахстан, народ не забываў калядную традыцыю. І хаця на душы было сумна ды шчымела сэрца, людзі сабіраліся, каб адвесці душу і перадаць маладым традыцыю продкаў.

„Жаніцьба Цярэшкі" пачыналася з таго, што выбранай жанчыне завязвалі хусткай вочы і яна вобмацкам выбірала мужчыну, якога называлі „бацькам". Той у сваю чаргу выбіраў сабе „маці". Пасля гэтага абое злучалі хлопцаў і дзяўчат у пары („жанілі" іх). Гэтай гульні спадарожнічалі танцы і спевы. На канец мужчыны ставілі самагонку, а жанчыны рыхтавалі закусь. Кабеты прыносілі з сабою тое, што мелі: сала, агуркі, нейкую вяндліну або скварану саланіну з цыбуляй. За сталом на пачэсным месцы сядалі „бацька" з „маці". Пасярэдзіне ставілі патэльню са скваркамі, у якую мачалі хлеб і закусвалі. Падчас гульні спяваліся наступныя песні:

Цярэшка, чаху-чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
Шпілечкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі.
Іду я кароў даіць
Мой жа ты, Давідзіла.
А за мной Давід бяжыць.
Я ж цябе не відзела.

Каб цябе кадук стаптаў,
Чаму ж мне фартух парваў?
Гэта ж татка мне купіў,
Каб мяне Пятрусь любіў!
Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, не ідзець.
Дзед бабу чабох на дно.
А бабе і там ладно.




Ай, Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў.
Лявоніха, душа ласкавая,
Чаравічкамі паляскавала.
Ай, Лявоніха, ідрыш тваю маць,
Не хадзі маю капусту ламаць.
Я хадзіла і яшчэ буду хадзіць,
Я ламала і яшчэ буду ламіць.
Ах, Лявоніха, не будзеш ламаць,
Я хачу к табе у сваты пасладць.
Ты ламала, гэта была мая,
А цяпер капуста будзе твая.




Ай, мамачка, мамачка,
Любіць мяне Яначка.
І я яго любіла,
І спаднічку згубіла.

Ай, мамачка, мамачка,
Любіць мяне Яначка.
Я яшчэ буду любіць,
Хоць бы другую згубіць.




Пастух трубіў,
Штаны згубіў.
Пастушка ішла,
Штаны знайшла.

Пастух трубіў,
Штаны згубіў.
Пастух вярніся,
Штаны знайшліся.




А барыня-ўдава
Паехала па драва.
Зачапілася за сук,
Разарвала свой капшук.
Зачапілася за пень
І стаяла цэлы дзень.

Каб не тыя кавалеры,
То стаяла б да вячэры.
Каб не тыя панічы,
То стаяла б да начы.
Каб не тыя паповічы,
То стаяла б да поўначы.




Нядаўна атрымаў я ліст ад сястры з Беларусі. Напісала яна мне, што многіх маіх знаёмых і сяброў няма ўжо ў жывых. А гэта былі тыя людзі, якія спраўлялі шматлікія народныя абрады, у тым ліку і „Жаніцьбу Цярэшкі", спявалі згаданыя песні. Радаваліся ўсе разам, палякі і беларусы, хаця ўсіх праследаваў супольны вораг — Савецкі Саюз.

Ці разам з адыходам з жыцця майго пакалення прападзе беларуская традыцыя? Хочацца мне, каб пра традыцыю помнілі маладыя беларусы на нашай зямлі, асабліва на Беласточчыне.

Калісьці з болем у сэрцы і са слязамі на вачах пісаў я ў „Ніву" пра царкоўку ў горадзе Велюнь. Ці сёння ёсць яшчэ праваслаўныя ў Велюні? Раней былі! У 1950—1957 гадах я служыў у гэтым горадзе і традыцыйна перад Калядамі разносіў па дамах аплаткі. У некаторых дамах мне дзякавалі і тлумачылі, што яны праваслаўнага веравызнання. Гэта дадало мне смеласці напісаць пра гістарычна каштоўную царкоўку, якая, развалоная і апаганеная, стаіць і сёння ды быццам жабрачка просіць у людзей міласціны і сэрца. У ёй жа спраўлялася Божая Служба!

Хаця настаў новы час і прыйшлі новыя людзі, але пра традыцыю бацькоў памятаць трэба.

**брат Браніслаў Кавэцкі**
**Катавіцы**




Дарагі Астроне! Пэўна, неўзабаве давядзецца мне пакінуць белы свет. Сняцца мне ўсё труны, а ты ж нядаўна адказваў на сон, дзе снілася труна, якая абазначае маладому вяселле, сямейнаму — прыбытак, а старому — хуткую смерць. Вось мае сны.

Вязу ў труне брата (ён не жыве) на вазку ў кірунку царквы. Перада мной везлі труны дзве жанчыны. Яны паставілі іх каля царквы, а самі ўвайшлі ў царкву. Там ім адпраўлялася служба. Я ўвайшла, але ўжо служба закончылася і бацюшка выходзіў. Я яго прашу, каб адправіў майму нябожчыку-брату. Ён затрымаўся і сказаў: „Я табе хачу штосьці сказаць". Але нічога не сказаў і выйшаў. Я глянула на зямлю ў царкве, а там так многа апілак чорнага колеру, як спаленыя. Было гэтага вельмі многа, ляжалі палосамі. І я выйшла з царквы.

Нядзеля. Пасля абеду я легла і ўздрамнула. Сніцца, што я паміраю. Увайшоў сын і кажа: „Не буду перашкаджаць" і выйшаў. Я гляджу — бацюшка ў хаце. Пытаю: „Хто вас, бацюшка, прывёў?" Адказу на маё пытанне не было. „Ці ж са мной ужо так кепска?". І чую, нехта кажа: „Устань". Я ўстала і прачнулася.

Панядзелак. Знаходжуся на пахаванні ў суседа (ён памёр даўней). Ляжыць у труне. І нейкіх двух яшчэ нябожчыкаў, але трунаў не бачу. І ўрэшце хаваюць майго мужа (не жыве). Труны не бачу, але бачу магілу яго, а на магіле намаляваны белы крыж.

**Кацярына**

Кацярына! Проста і не ведаю, чым цябе пацешыць. Многа ў тваіх снах смутку — труны, цэркві, бацюшкі, крыжы. Нават апілкі былі чорныя. Нейкая страта ходзіць каля цябе. Але ж у канцы ты была на магіле — значыць выкараскаешся з цяжкога становішча. Зрэшты, і пахаванне — якраз наадварот — абазначае, што будзеш весяліцца.

**АСТРОН**




## Кастрычнік

Месяц кастрычнік —
Восені адлічнік:
Лічыць дні і ночы
І жывыя вочы.
Бачым мы дакладна
І гаворым: ладна!.
Ночы даўжэюць,
Дні карацеюць.
Так мае быць:
Нам трэба жыць
У такіх абставінах
Як і ў навінах.
А яны розныя...
Хоць мы не заможныя,
Даражым родным словам:
Прэч розныя абмовы!
Хай кастрычнік чаруе,
На нас ён не злуе,
Дасць нам час адпачыць
І радасцю восеньскай даражыць.
Дае нам цяпло і холад
Ды, дзякуй Богу, не голад:
Ураджай сабралі ўжо,
Дасканалае дабро.
А як наша духоўная ніва?
Ці не абсеяна крыва...
Адзін сее на другога
Забыўшыся пра Бога.
Будзем жыць як кастрычнік:
Ён — наш адлічнік.
Будзем лічыць, помніць дабро,
Забываючы рознае зло.
Дрэвы застываюць
Ды вясною ажываюць.
Няхай прападаюць нашы нязгоды,
Каб дайсці нам да згоды.
Звярыны свет таксама
Ад восені ранняй
Дбае пра свой лёс
Каб зіму перанёс.

**Мікалай Панфілюк**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. Прыбор для чысткі, змятання, 3. шматграннік з паралельнай асновай, 5. вялікі горад на поўдні Індыі, 7. сталіца Азербайджана, 9. аўтамабільны ліхтар, 10. спорт, майстэрства барацьбы з халоднай зброяй, 11. танцавальны вечар, 12. частка доўгу, 14. вялікі горад у ЗША, 16. 60 секунд, 17. сталіца Бірмы.

**Вертыкальна:** 1. беларускі гімнаст, 2. прыток Волгі, 3. прылада для гладжання тканін, 4. спосаб, прыём, 6. дратаваная пуга, 8. бакал для піва, 9. матэрыял са склееных тонкіх драўляных пласцін, 11. сталіца Аджарыі, 13. трапічны цыклон, 14. абласны горад у Забайкаллі, 15. напр. Манблан.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на віраванку з 37 н-ра: тронак, натура, ураган, гарэза, ракета, Арнета, дзірка, штукар, красун, стырно, Руанда.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## Лякарства ад тугі і адзіноцтва

Прачытаў я апавяданне Андрэя Гаўрылюка п.з. „Паміж страхам і тугою" („Ніва", н-р 37), у якім аўтар вельмі разжаліўся над нейкай спелай, акуратнай жанчынай — Мар'яй, якой ужо за трыццаць, і якая не спяшае ісці замуж, каб не здарылася самае найгоршае — муж п'яніца. Бо сама Мар'я выхавалася ў сям'і алкаголікаў (бацька і маці пілі), а гэта ўжо няшчасце, і я вельмі спачуваю гэтай стройнай і прыгожай жанчыне, якая жыве адзінока. Хачу даць пэўную раду для Андрэя Гаўрылюка, бо некалі ён клапаціўся і пра маё прыватнае жыццё і пытаў, ці я сваруся са сваёй жонкай. Адказваю: ніколі з жонкай не сваруся. А вось мая рада: Андрэй павінен паступіць у медыцынскую акадэмію, бо ён амаль і так „урач", калі ў віне бачыць лякарства ад тугі і адзіноцтва. Бо ясна піша: „Адкрываю тады бутэльку віна, бяру запісную кніжку і, нягледзячы на пару, званю да ўсіх, чый нумар маю запісаны". Гэта адносіцца, ясна, да Мар'і. І калі гэтая адзінокая жанчына асушыць бутэльку віна, дык можам уявіць тады яе балбатню па тэлефоне. Мо і яе бацькі распачыналі ад бутэлькі віна, каб павесялець. І ясна: Мар'я — гэта п'яніца, так як і яе бацькі: яблык ад яблыні далёка не адкоціцца.

**Мікалай Панфілюк**

PS. Герой рамана англійскага пісьменніка Д. Дэфо, Рабінсон Крузо, жывучы ў адзіноцтве 25 гадоў на бязлюдным востраве, не знаходзіў у віне (а меў яго) радасці і не піў яго, каб забіць тугу і адзіноцтва. Радасць і спакой знаходзіў толькі ў малітве. Герой Андрэя, Мар'я — іншы чалавек: чалавек, відаць, дваццатага стагоддзя.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Талент

Напісаў я вершы
Ды іх прачытаў.
Кажуць, ты не першы,
Што так прабаваў.
— Хочаш стаць Купалам?
Гэта ж галава!
Нават цэнзу мала,
Хоць бы іх і два.
Дык таленту трэба,
Не хопіць турбот.
Глядзі лепш ты хлеба,
Гора-вершаплёт. —
Сеў я, ды падумаў:
Адкуль талент браць?
Вушы поўны шуму,
А ў мазгах — імгла.
Цэнз напэўна маю.
Маю галаву.
Аднак мне здаецца,
Што не праслыву.
Усё-ткі мяне цягне
Паперы кусок,
На якім ахвотны
Запісаць з радок.
Кожны ж мае права
Думкі выказаць.
Чаму ж тады мыслі
Унутры хаваць?
Кожны ж ды па-свойму
Бачыць Божы лад,
Кожнаму знаёмы
Розны кругагляд.
Можа ўразумеем
Адзін аднаго.
Жыццё пасвятлее
Трохі з-за таго.
Таму няхай пішуць
Усе, каму не лень.
Класікі прабачаць,
Што кідаем цень.
Ім не пагражаем,
Хопіць месца ўсім.
Праўду не спужаеш,
Не прыцьміш нічым!

„Улас"






Мал. Леаніда Разладава

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

Муж вярнуўся неспадзявана раней з працы, калі жонка яшчэ забаўлялася з каханкам. Той уцёк у падвал і схаваўся ў мяшок з-пад бульбы. Падазроны муж перашукаў усю кватэру, пайшоў у падвал і там таксама нічога не найшоў. Выходзячы, ударыў са злосцю нагою ў мяшок. Каханак застагнаў ад болю.
— Хто там? — пытае муж.
— Гэта мы, бульбы.

* * *

— Што ты хацела б атрымаць на дзень нараджэння? — пытае муж жонку.
— Ну і захапіў ты мяне неспадзявана; сама не знаю...
— У такім выпадку даю табе год часу на роздумы.

* * *

Размаўляюць два сябры:
— Ведаеш, перад шлюбам марылася мне, што мой дом будзе як параход, а я буду капітанам...
— І што атрымалася?
— Аказалася, што мая жонка марыла стаць адміралам.

* * *

На могілках адбываецца сход здаяў з усіх эпох.
— Калі ты памёр? — пытае адзін другога.
— Пры санацыі: відаць, як добра выглядаю. А ты калі?
— У вайну; бачыш які я худы...
Ажно бачаць ідзе трэці — худы як калок, толькі скура на косцях вісіць.
— А ты калі памёр?
— Адчапіцеся ад мяне, пачвары. Я з работы вяртаюся.

## СЕНТЭНЦЫІ

У доўгім носе столькі ж пахаў, што і ў малым.

* * *

Жэсты — гульня птушкі ў даміно.

* * *

Той пануе, хто назначае.

* * *

Са шчарбатымі зубамі не кідайся на арэхі.

**Барыс Руско**



## Як жа разбагацець?

Што за час пайшоў? Спаць не спіш — усё думаеш, як бы разбагацець. Сёе-тое势 плануеш, а зрухаў няма. Ну няхай бы, напрыклад, які родзіч за мяжою, пра якога я і ведаць не ведаю, успомніў, паміраючы, пра мяне ды падкінуў на добрую справу дзве-тры сотні тысяч даляраў. Вось тады я б разгарнуўся!

А так што рабіць?

Хіба гандляваць пачаць?

Пабудаваў сабе будку ды прадавай там розныя „хершы", „снікерсы" ці бананы з ананасамі.

Бачыш ты, думалі, што беларусы бананаў есці не будуць, а яны ядуць, ды яшчэ як!

Салодкая, кажуць, рэч, іншы раз нават танней за яблыкі. Да...

А будку як купіць? Яна ж больш за мільён каштуе. Потым арэнду плаціць трэба, рэкецірам у лапу даваць... Можа, з гаспадаркі што прадаць?

Эх, прадаў бы я курку рабу, ды шкада. Дзе ты такую знойдзеш, каб па тры яйкі на дзень няслась? Нясе! А верыць ніхто не хоча.

— За сенсацыяй, — кажуць, — ганяешся. А можна было б з аўкцыёну добрыя грошы адхапіць.

А карова? Карову прадаць таксама шкада. Яна ў мяне рэкардыстка — вымя на восем саскоў і кожны дзень чатыры вядры малака. З каровай нічога не выйдзе. Толькі заікніся пра кірмаш, дык жонка і лямант наробіць, і з хаты выганіць. Ну, што яшчэ? Два парсюкі ў хляве. За кожнага па будцы можна набыць.

Не, нельга парсюкоў зводзіць. Я без сала не магу. Без сала жыцця няма. Які ж менталітэт без сала? Без сала я не гаспадар. Як добры шмат да лусты з хлебам прыкладзеш, цыбуліну возьмеш... А потым хадзі сабе цэлы дзень як атамны рэактар. Ніякая немач цябе не бярэ. Калі ж пасля і чаю папіць, дык лепшага жыцця і не трэба.

Смешна сказаць, без сала застацца. Што ж я тады да бутэлькі жытнёўкі на талерку пакладу?

Вось і атрымліваецца як той казаў: „Хоць круць-верць, хоць верць-круць — адзін вынік".

А было б у мяне грошай мільёнаў сто, паклаў бы я іх у банк і жыў бы сабе прыпяваючы. Адправіў бы жонку адпачываць на Кіпр альбо аж на Канарскія астравы, а сам сабе дома што хачу, тое і раблю. Хачу рыбу лаўлю, хачу сплю, хачу з хлопцамі за бутэлькай час баўлю, а хачу ў карты гуляю. От гэта жыццё!

І вартаваць нікога не трэба, і ніхто над табою камандзірам не стаіць. Зараз вось дамоў прыйдзеш і пачнецца навала: „...Ідзі туды, нясі гэта, зрабі, што я табе казала... Небарака!.. Недарэка!.." І хоць бы раз спытала: „Спаў ты ці не, даражэнькі?" За ўсю ноч і не заснуў як мае быць. Усё грошы мрояцца. Мрояцца, спаць нехавота, галава баліць і адна толькі думка мазгі свідруе: „Як жа разбагацець?"

**Уладзімір Іваноў**
*(„Звязда")*



Дарагое Сэрцайка! Прабач, што пішу табе не ў „чыста" любоўнай справе. Але, па-мойму, каханне мае столькі адценняў, што і не пералічыш. Я хачу напісаць пра сваю дачушку, бо мне здаецца, што каханне ў сям'і — гэта справа найважнейшая.

Ну, ясна, што кожны кахае сваё дзіця, а ў сувязі з гэтым хацеў бы выхаваць яго паводле сваіх узораў і прынцыпаў. Паколькі мы — праваслаўныя, дык і дзіця, вядома, звязана толькі з царквой. У школе ў яе адбываюцца заняткі з праваслаўным катэхетам. Ходзіць з намі ў царкву, святкуем праваслаўныя святы.

Мяне навучылі дома трымацца сваёй веры, і так я выхоўваю сваю дачушку. Са страхам думала я не раз, што будзе, калі яна падрасце і захоча выйсці замуж. Як гляну навокал, дык — калі не трапіць на свайго хлопца — амаль у ста працэнтах пэўна, што пяройдзе на каталіцкую веру. Як ні круці, дык выйдзе па-іхняму. Я ж бачу, што дзеецца.

Калі праваслаўны хлопец жэніцца з дзяўчынай-каталічкай, дык гавораць: шлюб трэба браць у касцёле, дзяцей хрысціць там жа, бо ж гэта ўсім вядома, што дзяцей выхоўвае маці, яна ахоўвае дом і сям'ю, адным словам, яна — найважнейшая, і ўсё павінна адбывацца згодна з яе рэлігійным выхаваннем. Значыць, уся сям'я павінна стацца каталіцкай.

Калі праваслаўная дзяўчына выходзіць замуж за католіка, дык тут ужо ніякіх сумненняў няма: ён — галава сям'і, дык толькі — каталіцкі касцёл, як жа можа быць інакш?! Сям'ю павінна трымаць еднасць у поглядах на свет і рэлігію. Тут нават непатрэбныя ніякія тлумачэнні. Дзяўчына, вядома, ідзе ў касцёл.

І гэтага я, дарагое Сэрцайка, баялася. Бо нібы мы — дык што, сароцы з-пад хваста вываліліся?! Мы — дык ужо нічога не значым, хаця жывем на адвечна сваёй зямлі?!

Але ўдар прыйшоў зусім з іншага боку, ды намнога раней, чым я спадзявалася. А справа ў тым, што ёсць у нас суседка, якая прыналежыць да іегавістаў. Мы з ёю жылі вельмі добра і нам зусім не перашкаджала, што яна — іншай веры. Нават калісьці прыйшла наша малая з панадворка ды гаворыць: „Дзеці загадалі з Мартай не гуляць, бо яна — іегавістка". Марта — дачка гэтай суседкі. Ну, дык я спыталася ў дачушкі, што яна адказала дзецям. А яна і кажа ім: „А я вось буду бавіцца з ёю". Мне гэта спадабалася, я расказала пра ўсё маме Марты.

Ну, і пачалося. Тое, што чалавек талерантны, і ўсе рэлігіі, паводле яго думкі, раўнапраўныя, не значыла, што я хачу перайсці на іншую веру. А суседка не дае мне цяпер спакою. Немагчыма было з ёю пачаць хоць якую гаворку: усе размовы сыходзілі на адно: што толькі іх вера праўдзівая.

Мяне такая яе пастава пачала іртаваць. Я пачала ўхіляцца ад якіх-небудзь размоў з ёю, бо заўсёды мы ў канцы пачыналі нават сварыцца.

І што ты думаеш, Сэрцайка?! Пачала яна „апрацоўваць" маю дачушку. То сустрэне на панадворку, то Марта запросіць яе да сябе (дзеці — як дзеці, гуляюць) — усё пра тое і пра тое. Мая дачка прыйшла калісь дахаты і пытае: „Мама, а ці наша вера непраўдзівая?!"

Нешта ўва мне закіпела. Я пайшла да суседкі і сказала ёй, каб не важылася выхоўваць маё дзіця. Мае шмат сваёй работы, хай яе пераробіць. Яна абразілася.

Цяпер мы ледзь вітаемся. Вядома, зычыла нам дабра, а мы яго не прынялі.

Мне прыкра, што так сталася, але я не магла зрабіць інакш.

**Марыя**

Марыя! Ты ўчыніла тое, што павінна зрабіць кожная маці. Справа веры — гэта ваша сямейная справа, а не нейкай суседкі. Чаму вы павінны адрачыся ад сваёй веры? Бо ёй здаецца, што яе лепшая?!

Ты ўвесь час непакоілася, што паглыне тваё дзіця рэлігія большасці (бо такая ў кожнай краіне маецца лепш), а тут, бач, знянацку прыйшоў удар з другога боку.

Ты падышла да суседкі сардэчна, але яна не так зразумела цябе і пачала атакаваць вас. Кожны, думаю, мае права быць сабою, але не мусіць лезці некаму ў душу.

**СЭРЦАЙКА**